задзіночаньне беларускіх студэнтаў

# студэнцкая думка

тэмы нумару:
разьмеркаваньне,
гісторыя адукацыі
на Беларусі,
рэлігійныя сэкты,



камэнтар
юрыстаў,
да 30-х угодкаў
французкай
студэнцкай
рэвалюцыі,
з жыцьця ЗэБэЭСу, Прага за 19$
і іншыя гадасьці

чэрвень - ліпень 1998

# №6

# Зьмест #6



**Выданьне заснавана:** Задзіночаньнем Беларускіх Студэнтаў
**Рэдактар:** І.Віданава
**Карэктар:** В.Булгакаў
**Набор:** В.Шылай
**Вёрстка:** Цэнтар «Выдавецкая Ініцыятыва»

Наклад 299 асобнікаў

ТЭМА................

# разьмеркаваньне

Менск, сталіца, цэнтар. Гэтыя словы прыцягваюць моладзь з правінцыі. Яна прыяжджае сюды з розных рэгіёнаў, з самых далёкіх і глухіх вёсак. Прыяжджае таму, што тут можна атрымаць добрую адукацыю, таму што тут можна знайсьці працу з магчымасьцямі для далейшага росту і пабудовы ўласнай кар'еры, таму што тут ёсьць магчымасьць самастойна пабудаваць сваё ўласнае жыцьцё. Моладзь прыяжджае ў Менск, каб атрымаць вышэйшую адукацыю. Прыяжджае, каб пачаць новае жыцьцё, каб знайсьці сваё шчасьце. Прыяжджае, каб застацца...

Але з 1996/97 навучальнага году ў мэдыцынскіх і пэдагагічных, а з 1997/98 году ўва ўсіх дзяржаўных вышэйшых і сярэдніх спэцыяльных навучальных установах уведзена абавязковае разьмеркаваньне. Ці азначае гэта, што ўсім студэнтам з рэгіёнаў, якія навучаюцца ў менскіх ВНУ і тэхнікумах, пасьля выпуску прыйдзецца пакінуць Менск? Ці азначае гэта, што мянчанам прыйдзецца паехаць у далёкія вёскі або, што яшчэ горш, у рэгіёны, пацярпелыя ад чарнобыльскай трагедыі? З мэтай разабрацца, як ажыцьцяўляецца абавязковае разьмеркаваньне, мы вырашылі пагутарыць з дэканамі некаторых менскіх ВНУ.

Першае, што неабходна зазначыць, гэта тое, што разьмеркаваньне тычыцца толькі выпускнікоў дзяржаўных навучальных установаў і толькі тых, хто навучаецца ў гэтых установах за



Сяргей Зікрацкі, Зьміцер Зікрацкі

Беларускі Дзяржаўны Эканамічны Ўнівэрсытэт, факультэт права

кошт бюджэтных сродкаў. Студэнты, якія навучаюцца за кошт пазабюджэтных сродкаў, таксама маюць права ўдзельнічаць у разьмеркаваньні, але на добраахвотных умовах, у той час як бюджэтнікі абавязкова падлягаюць разьмеркаваньню. Разьмеркаваньне праводзіцца не пазьней, чымся за 2 месяцы да заканчэньня выпускнікамі навучальных установаў камісіяй, склад якой зацьвярджаецца рэктарам, і якая звычайна ўзначальваецца рэктарам або прарэктарам. Выпускнікоў, як правіла, разьмяркоўваюць па месцы іх пастаяннага жыхарства. Складваецца сытуацыя, калі, з аднаго боку, у Палажэньні ня сказана, што выпускнікоў трэба абавязкова разьмяркоўваць па месцы жыхарства, што дазваляе, напрыклад, разьмяркоўваць мянчан у горад Менск; а, зь іншага боку, іншагародніх таксама ня вельмі імкнуцца пакінуць у Менску, з спасылкай на тое, што ў сталіцу можна разьмяркоўваць толькі тых, хто мае менскую прапіску. Аднак, ёсьць для вас, выпускнікі, некалькі магчымасьцяў застацца ў Менску (або не паехаць туды, куды вы ехаць не жадаеце).

Магчымасьць першая — сям'я. Палажэньне з разьмеркаваньнем для сямейных шмат у чым залежыць ад таго, калі разьмяркоўвалі вашу другую палавінку. Калі адзін з супругаў разьмяркоўваўся раней, то другі забясьпечваецца працоўным месцам у тым жа населеным пункце. Такім чынам, калі раней вашага супруга разьмеркавалі ў Менск (або нават не разьмеркавалі, але ён мае менскую прапіску), то вас таксама павінны разьмеркаваць у Менск або даць права самастойнага працаўладкаваньня (гэта тычыцца нават асоб, якія навучаюцца па мэтавым прыёме). Калі ж вы разьмяркоўваецеся адначасова з сваім супругам, то вас мусяць забясьпечыць працоўным месцам у адным населеным пункце; пры гэтым, калі адзін з вас навучаўся па мэтавым накіраваньні, то вам разам прыйдзецца паехаць на месца мэтавага накіраваньня супруга. У цэлым адзначым, што да сямейных камісіі падыходзяць дастаткова ляяльна, і ў вас ёсьць шанец перакалаць камісію разьмеркаваць вас

менавіта туды, куды вы жадаеце.
Магчымасьць другая – запыты арганізацыяў і ўстановаў. Існуе практыка, калі ўстанова або арганізацыя накіроўвае ў навучальную ўстанову запыт на канкрэтнага студэнта, які ўжо адпрацаваў у гэтай арганізацыі пэўны прамежак часу і паказаў сябе добрым спэцыялістам. Магчымасьць задавальненьня ВНУ такога запыту дастаткова вялікая. Дэкан хімічнага факультэту БДУ Генадзь Браніцкі адзначыў: "У нас ніводнага выпадку незадавальненьня запыту не было. Мы нават не змаглі на некаторыя плянавыя месцы накіраваць людзей, а ўсе тыя запыты, якія прыносілі студэнты, мы задавальнілі". Аднак праблема ў тым, што ня ўсе прадпрыемствы і ўстановы жадаюць накіроўваць запыты на студэнтаў, якія ня маюць у горадзе месца пражываньня і прапіскі, паколькі далёка ня ўсе нашыя арганізацыі маюць магчымасьць забясьпечыць пэўныя сацыяльныя ўмовы для свайго работніка. Аднак жа, як паведаміў сп. Браніцкі, такія выпадкі былі: некаторыя прадпрыемствы згаджаліся браць іншагародніх студэнтаў на працу й даваць ім месца ў інтэрнаце. Больш складаная сытуацыя склалася з выпускнікамі, якія навучаліся па мэтавым прыёме. Нават калі ёсьць запыт з установы, якая жадае даць вам працу, але вы навучаецеся па мэтавым прыёме, то камісія пакіне без задавальненьня гэты запыт і разьмяркуе вас па месцы мэтавага накіраваньня.

Магчымасьць трэцяя – паступленьне ў асьпірантуру. Для найбольш актыўных студэнтаў, якія займаюцца навукова-дасьледчай дзейнасьцю, адкрываецца магчымасьць пасьля інстытуту, не адпрацаваўшы па разьмеркаваньні, паступаць у асьпірантуру й працягваць навучаньне. Для гэтага неабходна мець адпаведную

працяг на ст. 4

# Разьмеркаваньне – як яно было

*(быццам рэпартаж)*

Ільля Глыбоўскі

**Ды ніхто, безумоўна,**
**ня будзе пытаць:**
**што ты хочаш?**
**што ты мусіш?**

*Мроя, «28-ая зорка»*

Вышэйшая адукацыя на Беларусі прыйшла ізноў да таго, ад чаго ў свой час адышла: як і ў часы эсэсэра, маладога спэцыяліста чакае прымусовае разьмеркаваньне... Прычым падносіцца ўсё гэта ў выглядзе гарантыі працаўладкаваньня на два гады пасьля заканчэньня ВНУ, і нікога не цікавіць, ці жадаеш ты сам знайсьці працу, якая табе падыходзіць, або ці жадаеш ты ўвогуле працаваць (сілкавацца рэжым падаткамі). Але пакінем да часу агульныя развагі , а зараз лепей распавядзем, як адбывалася разьмеркаваньне спэцыялістаў аднэй спэцыяльнасьці (САПР) на адным факультэце (ФІТР) у аднэй ВНУ г.Менску (БДПА).

Яшчэ за паўтара месяца да разьмеркаваньня нашу плынь (дзьве групы па 18 чалавек) сабралі на сход, дзе зачыталі правілы разьмеркаваньня, падпісаныя міністрам адукацыі РБ В.Стражавым, у якіх, у прыватнасьці зазначаецца, што малады спэцыяліст мусіць адпрацаваць два гады па месцы разьмеркаваньня, звольніць яго можна толькі за грубыя парушэньні, а іншыя прадпрыемствы й арганізацыі пад пагрозай штрафных санкцый ня маюць права браць на працу разьмеркаванага спэцыяліста на працягу двух год апасьля заканчэньня ВНУ. Прыгон напрыканцы XX стагодзьдзя ў цэнтры Эўропы!!! На тым жа сходзе давялі сьпіс прадпрыемстваў, якія ўжо падалі запатрабаваньні на спэцыялістаў (МАЗ, НДІ АСК, МЗАЛ, СКБ "Пэрэнг", завод імя Вавілава, "Электроніка", "Беллітмаш"; заводы зь Берасьця, Маладзечна ды Баранавічаў), прычым палова зь іх прапанавала працоўныя месцы толькі хлопцам. Таксама нам параілі пры наяўнасьці магчымасьці самім дамовіцца з прадпрыемствамі дзяржаўнай формы ўласнасьці (!), каб яны даслалі лісты-запатрабаваньні на пэўнага спэцыяліста. Такой улады бачаць магчымасьць самастойнага ўладкаваньня...

Што да прадпрыемстваў, якія падалі запатрабаваньні, то, акрамя саміх запатрабаваньняў, яны не далі ніякай дадатковай інфармацыі: ні аб умовах працы, ні аб памеры заробку і г.д. Таму гэтыя зьвесткі прыйшлося атрымліваць па ўласных каналах і ад знаёмых інфарматараў.

Але самае цікавае пачалося ў дзень разьмеркаваньня. За гадзіну да самой працэдуры зноў быў праведзены сход, на якім нам паведамілі тое самае, што і на папярэднім, але дадалі, што будуць прадстаўнікі й зь іншых прадпрыемстваў (МПЗ, МЭМЗ, МВАВТ, завод імя Казлова і інш.), і ў нас ёсьць магчымасьць перамовіць зь імі (каля 30 хвілін). Дарэчы, варта зазначыць, што толькі палова прадстаўнікоў прадпрыемстваў, якія падавалі запатрабаваньні, прысутнічала на разьмеркаваньні.

Прынамсі, прыкладна палова студэнтаў да моманту разьмеркаваньня ўжо

працяг на ст. 5

# Разьмеркаваньне

пачатак на ст. 2-3

рэкамэндацыю на паступленьне катэдры або факультэту. Тым ня менш, гэтая рэкамэндацыя не зьяўляецца вызваленьнем ад разьмеркаваньня. Вас усё роўна разьмяркуюць, але вы маеце права паступаць у асьпірантуру, і вас мусяць адпусьціць зь месца працы для паступленьня, а ў далейшым (калі паступленьне будзе ўдалым) для працягу навучаньня ў асьпірантуры. Станоўча тое, што тых, хто мае рэкамэндацыі на паступленьне ў асьпірантуру, разьмяркоўваюць, як правіла, на адпаведныя катэдры, факультэты ВНУ і ў навуковадасьледчыя інстытуты. Такім чынам, нават не паступіўшы ў асьпірантуру, Вы застаняцеся ў Менску. Акрамя гэтага, некаторыя ВНУ маюць магчымасьць пакідаць нежыхароў Менску пасьля заканчэньня асьпірантуры ў Менску і даваць ім месца ў інтэрнаце.

Магчымасьць чацьвертая – абавязковае накіраваньне на працу па месцы жыхарства (асабліва актуальна для выпускнікоў-мянчан, якіх адпраўляюць у іншы рэгіён). Па месцы жыхарства сям'і абавязкова разьмяркоўваюцца выпускнікі-інваліды першай або другой групы; выпускнікі, у якіх адзін з бацькоў або супруг (супруга) зьяўляюцца інвалідамі першай або другой групы; выпускнікі-цяжарныя жанчыны, а таксама маці або бацька, якія маюць дзіця ўва ўзросьце да 3 гадоў. У выпадку немагчымасьці накіраваньня на працу па месцы іх пастаяннага жыхарства ім даецца магчымасьць самастойнага працаўладкаваньня.

Чым жа была выклікана ініцыятыва дзяржавы па ўвядзеньні абавязковага разьмеркаваньня? Як гаворыцца ў загадзе Міністэрства адукацыі, гэтае палажэньне ўведзена, па-першае, з мэтай паляпшэньня кадравага забесьпячэньня спэцыялістамі галін гаспадаркі; па-другое, з мэтай аказаньня садзеяньня ў працаўладкаваньні выпускнікоў дзяржаўных навучальных установаў; па-трэцяе, з мэтай узмацненьня гарантый сацыяльнай абароны выпускнікоў.

Сапраўды, ня ўсе галіны гаспадаркі раўнамерна ўкамплектаваны кадрамі, адчуваецца дысбалянс і недахоп спэцыялістаў у асобных рэгіёнах, значыць, вырашаць праблему кадравага забесьпячэньня неабходна. Так, выпускнікам цяжка атрымаць першае месца працы, а дзяржава, валодаючы магутнымі крыніцамі інфармацыі і аналізу, мае магчымасьць дапамагчы ім у гэтым. Сапраўды, выпускнік ВНУ, які толькі пачынае ўласнае самастойнае жыцьцё, сацыяльна не абаронены і дзяржаўная падтрымка яму патрэбна.

Аднак, ці была неабходнасьць увядзеньня менавіта абавязковага разьмеркаваньня для вырашэньня гэтых задач? Якую з мэтаў дзяржава разглядала як прыярытэтную? Безумоўна, гэтая мэта – паляпшэньне кадравага забесьпячэньня спэцыялістамі галін гаспадаркі. Таму што дапамогу ў працаўладкаваньні выпускнікоў няма патрэбы ажыцьцяўляць у абавязковым парадку (на тое яна і дапамога), а для ўзмацненьня гарантый сацыяльнай дапамогі не патрэбна ўвядзеньне разьмеркаваньня (можна прыняць асобны нарматыўны акт), і толькі забесьпячэньне спэцыялістамі рэгіёнаў значна лягчэй ажыцьцявіць, уводзячы абавязковае разьмеркаваньне.

Наш вывад пацьвердзіла і размова з дэканам мэдыка-прафіляктычнага факультэту Менскага мэдыцынскага інстытуту Іосіфам Раманоўскім. Ён адзначыў: "Раней у нас таксама была камісія па аказаньні дапамогі выпускнікам у працаўладкаваньні. Адзінае, што зьмянілася, дык гэта тое, што


Сярэднявечнае ўяўленьне пра разьмеркаваньне

пасьля ўвядзеньня абавязковага разьмеркаваньня камісія мае права галасаваньнем вызначыць канкрэтнае месца працы дадзенаму выпускніку нават безь ягонай згоды". Такім чынам, дзяржава для забесьпячэньня сваіх мэтаў (у дадзеным выпадку – для забесьпячэньня рэгіёнаў кадрамі) у чарговы раз выкарыстала самы просты на першы погляд, але самы непэрспэктыўны на самой справе спосаб вырашэньня гэтага пытаньня – адміністрацыйна-камандны мэтад. Замест таго, каб вырашаць праблемы рынкавымі мэтадамі – замацоўваць эканамічную базу, паляпшаць сацыяльную сфэру, жыльлёвыя ўмовы ў рэгіёнах (што будзе стымулам для прыезду туды новых спэцыялістаў і павысіць попыт сярод выпускнікоў на гэтыя месцы); замест стварэньня такіх умоваў, каб выпускнік ехаў на новае месца не адпрацаваць 2 гады, а ехаў працаваць і заставацца там, дзяржава вырашыла прымусіць іх пакінуць горад і паехаць у рэгіёны, не стварыўшы пры гэтым амаль ніякіх умоваў для ўкараненьня іх там.

На сёньняшні дзень, як запэўнілі нас дэканы, зь якімі нам давялося пагутарыць, разьмеркаваньне ажыцьцяўляецца дастаткова лібэральна: задавальняюцца запыты прадпрыемстваў і пажаданьні выпускнікоў, не бывае выпадкаў гвалту, калі камісія сваім валявым рашэньнем вызначае месца працы выпускніка, сябры камісіі імкнуцца ісьці насустрач студэнту, увайсьці ў яго становішча, і пакуль разьмеркаваньне не набыло тую агідную форму, якую яно мела 10-15 год таму. Аднак, што будзе потым, калі ў абласьцях і раёнах зусім не застанецца спэцыялістаў? Тады дзяржава можа выкарыстаць усе тыя магчымасьці, якія дае ёй інстытут абавязковага разьмеркаваньня.



# Разьмеркаваньне – як яно было



*пачатак на ст. 3*

мела запатрабаваньні на сябе, зробленыя прыватным чынам. Яны сапраўды былі разьмеркаваныя на гэтыя працоўныя месцы.

За дадзеныя нам паўгадзіны я пасьпеў, па-першае, перамовіць з прадстаўніком найбольш цікавага для мяне прадпрыемства за 15 хвілін, па-другое, затэлефанаваць сябрам, якія працуюць на гэтым прадпрыемстве, каб упэўніцца ў адпаведнасьці пачутага – 10 хвілін.

І вось пачалося разьмеркаваньне. Я меў даволі высокі сярэдні бал (4,64), а таму ішоў сёмым. Калі мяне выклікалі ў залю, дзе адбывалася разьмеркаваньне, першае, што кінулася ў вочы – гэта зялёная сукня на стале камісіі, якая выдатна пасавала да гэтай разьмеркавальнай рулеткі. Другое, што мяне ўразіла, гэта пройма прадстаўнікоў прадпрыемстваў і установаў, якія ня дужа зацікаўленыя ў атрыманьні спэцыяліста, бо калі гэта хлопец — то больш за год ён правядзе ў войску, а калі дзяўчына – то ўвогуле можа сысьці ў дэкрэт. Толькі пачуўшы, што ў войску я ўжо адваяваў, пачалося нешта падобнае на змаганьне – хто ж ня хоча атрымаць адмысловца, які два гады будзе за мізэрныя грошы працаваць толькі на "ягоным" заводзе? Тут я і пачаў роспыты дзеля задавальненьня ўласнае цікавасьці, чым трохі ажывіў гэтую пройму ды зацягнуў працэс разьмеркаваньня хвілін на дваццаць. Але мая абяцанка пры першай жа нагодзе стварыць свабодны прафсаюз зноў адкінула залю ў летаргічны сон. Тут я і зрабіў свой "выбар".

Такім чынам, атрымаўшы прыкладна тое, што і жадаў, ужо цераз сем гадзін з спакойнай душой я трэсься ў цягніку па дарозе ў Прагу чэскую ды разважаў аб магчымасьцях зусім не працаваць, а калі й працаваць – то толькі лежачы. Пэўныя задумкі на гэты конт я ўжо маю, і калі яны ажыцьцёвяцца, то абавязкова падзялюся сваім досьведам на старонках "Студэнцкай думкі".

ТЭМА...............

Студэнты й палітыка



# Студэнты на барыкадах

**Наталя Арлова**
Студэнка гістарычнага факультэта БДУ

Што адбываецца з моладзю? Гэтае пытаньне апошнім часам стала рытарычным, бо адказ на яго патрабуе аналізу стану грамадзтва ўвогуле. Духоўны вакуум, што ўтварыўся на постсавецкіх абшарах пасьля падзеньня "вялікай дзяржавы" і яе ідэалёгіі, паступова пачаў запаўняцца. Новыя эканамічныя й палітычныя ўмовы прапануюць грамадзтву й новую ідэалягічную аснову. Ідэі "заходняга ладу жыцьця" найбольш прываблiваюць моладзь — самы прагрэсыўны і мабільны элемэнт грамадзтва. Аднак духоўныя прыярытэты спажывецкай мадэлі грамадзтва на яшчэ не ачышчанай ад "саўковасьці" глебе ствараюць цікавае спалучэньне.

Апошнім часам палітолягі ў адзін голас адзначаюць палітычную пасыўнасьць пераважнай часткі моладзі на ўсёй постсавецкай прасторы. Аднак, разам з тым вызначаецца цалкам супрацьлеглая тэндэнцыя–зьяўленьне даволі невялікіх па колькасьці, але вельмі актыўных радыкальных і нават экстрэмісцкіх маладзёвых арганізацыяў, якія маюць намер на практыцы ажыцьцявіць канцэпцыю "перавагі меншасьці". Ува ўмовах узаемнага непаразуменьня і адчужэньня ўлады ад моладзі, апошняя або адплочвае абыякавасьцю да палітыкі, або ўвогуле ідзе на радыкальныя дзеяньні, у якіх бачыць шанец давесьці да кіраўніцтва краіны свае праблемы.Невялікая студэнцкая забастоўка не закранае вытворчай сфэры функцыянаваньня грамадзтва, а таму мала непакоіць улады, аб чым сьведчыць айчынны досьвед апошніх гадоў. Таму, каб студэнтаў пачулі і ўспрынялі сур'ёзна, іх галасы павінны гучаць вельмі моцна. Апошняе пацьвярджае і заходні прыклад, у прыватнасьці, падзеі траўня 1968 году ў Парыжы — яскравы прыклад таго, якія формы можа набыць супрацьстаяньне ўладаў і студэнтаў, і як студэнцкія хваляваньні здольныя адыграць ролю дэтанатара выбуху сытуацыі ў краіне цалкам.

## Парыскі прэцэдэнт

Галоўнай прычынай незадаволенасьці ўнівэрсытэцкай моладзі Францыі стала праведзеная ў 1965-1966 гадох рэформа вышэйшай адукацыі, так званая "рэформа Фушэ". Яна прадугледжвала стварэньне двухгадовых тэхналягічных інстытутаў пры ўнівэрсытэтах для бяднейшай часткі студэнцтва. Гэтыя ўстановы мусілі былі рыхтаваць тэхнічныя кадры сярэдняга ўзроўню на аснове мінімальных ведаў. Працягваць потым навучаньне ўва ўнівэрсытэтах было вельмі складана.Да таго ж усталёўваліся больш жорсткія ўмовы іспытаў, калі студэнт мог быць адлічаны з установы адразу пасьля няздачы сэсіі.Таксама не існавала гарантыяў працаўладкаваньня пасьля заканчэньня ВНУ, а колькасьць беспрацоўных у Францыі на той час стабільна павялічвалася. Але галоўнае—уся вышэйшая адукацыя знаходзілася пад жорсткім кантролем дзяржавы, якая ня ўлічвала патрэбы й пажаданьні студэнцтва і, фактычна, ня ведала яго стану.

Першы выпадак хваляваньняў меў месца на філялягічным факультэце Парыскага ўнівэрсытэту ў Нантэры, прыгарадзе Парыжу. 22 сакавіка 1968

году частка радыкальна настроеных студэнтаў захапіла адміністрацыйны будынак факультэту і ператварыла яго ў арэну палітычных выступленьняў, накіраваных супраць палітыкі ўраду ў адносінах да вышэйшай адукацыі. Была ўтвораная арганізацыя "Рух 22 сакавіка" на чале з дваццацітрохгадовым студэнтам–сацыёлягам, грамадзянінам ФРГ Кон-Бэндытам, вядомым у будучым дзеячом радыкальнага маладзёвага руху. "Рух 22 сакавіка"—анархічнае па сваім зьмесьце ўтварэньне, якое хутка было падтрымана прадстаўнікамі лявацкіх груповак трацкісцкага і іншага кшталту.

Аднак, у гэты ж час актывізаваліся і правыя радыкальныя арганізацыі тыпу групоўкі "Аксыдан" ці "Захад".Таму, каб крыху ахаладзіць баявы запал студэнтаў, рэктар унівэрсытэту Ф.Рош 3 траўня 1968 году прыняў рашэньне аб часовым зачыненьні факультэту ў Нантэры.

Аднак выступленьні студэнтаў не перапыніліся, а нават наадварот. Дзеяньні былі перанесеныя на тэрыторыю Сарбоны і ахапілі ўвесь Лацінскі квартал, у якім знаходзіўся ўнівэрсытэт. Масавыя хваляваньні студэнтаў, іх патрабаваньні дэмакратызацыі навучаньня, дазволу ўдзельнічаць у кіраваньні ВНУ і ў распрацоўцы новай рэформы вышэйшай адукацыі, а разам з тым некаторыя чыста палітычныя лёзунгі –усё гэта ўсхвалявала і рэктарат унівэрсытэту і парыскія гарадзкія ўлады. У выніку, ў Лацінскім квартале зьявіліся аддзелы паліцыі, якія мелі загад вызваліць будынкі ўнівэрсытэту і навакольныя вуліцы ад мяцежных студэнтаў. Сутычкі апошніх з паліцыяй сталі непазьбежнымі. Вось як вызначыў сытуацыю студэнт літаратурнага факультэту Фабрыс Элiён: "Адзінымі нашымі суразмоўцамі, дасланымі ўрадам, былі жандары. Гэтыя людзі гавораць мала і дрэнна. Іх мова –мова дубінак.Студэнты прыйшлі ня біцца, а пратэставаць супраць скандальнай унівэрсытэцкай сыстэмы".

Вынікам сутычак сталі арышты некаторых удзельнікаў. Аднак гэта быў толькі пачатак. Нацыянальны Саюз Студэнтаў Францыі сумесна з Нацыянальным Прафсаюзам Працаўнікоў Вышэйшай Адукацыі 6 траўня правялі дэманстрацыю пратэсту. Без сутычак з паліцыяй не абышлося, але колькасьць удзельнікаў і арыштаваных (422 чалавекі) была ўжо большай. У гэты раз сілы правапарадку скарысталі супраць дэманстрантаў сьлязісты газ. У гэты ж дзень у Бардо, Руане, Страсбургу, Тулузе і іншых гарадох адбыліся мітынгі й дэманстрацыі ў падтрымку парыскіх студэнтаў.

Хваляваньні пачалі выходзіць за рамкі чыста студэнцкіх. 7 траўня кіраўнік Усеагульнай Канфэдэрацыі Прафсаюзаў Францыі Ж.Сэгі выказаўся ў падтрымку студэнтаў і супраць рэпрэсіўных захадаў уладаў. Вынікам гэтае заявы стала найбольш масавая за ўвесь папярэдні пэрыяд 60-ці тысячная дэманстрацыя студэнтаў і працоўных, што адбылася ў ноч з 10 на 11 траўня. Удзельнікі патрабавалі найперш вызваленьня палітычных вязьняў і аднаўленьня дзейнасьці ўнівэрсытэту. А другой гадзіне ночы аддзелы паліцыі пачалі "апэрацыю па ачыстцы" Лацінскага кварталу. У адказ на гэта на вуліцах зьявіліся першыя барыкады. Вось як апісвае тыя падзеі іх непасрэдны ўдзельнік студэнт Бруно Марсэнак: "Мы (15 тысяч студэнтаў Парыжу) дайшлі да скрыжаваньня вуліцы Рэні й бульвару Сэн-Жэрмэн. Адтуль уздымалася блакітнае вобласка сьлязістага газу. Мы, аднак, накіраваліся туды. Але паліцэйскія пачалі закідваць нас камянямі. Мы былі бяззбройнымі, і нам засталося толькі будаваць заслоны. Мы хацелі пратрымацца да раніцы, хаця і задыхаліся ад газу. Тымчасам паліцэйскія падпалілі машыны фосфарнымі гранатамі. Сярод нас было шмат параненых, і мы былі вымушаныя пакінуць барыкады. Была пятая гадзіна раніцы. Затрыманыя сядзелі на бруку. Паліцэйскія патрабавалі: "Пакажы рукі!" За чорныя (ад пораху) рукі абвінавачвалі, потым судзілі і выносілі прысуд".

У выніку сутыкненьняў 367 чалавек былі параненыя. А палове пятай раніцы па радыё выступіў арцыбіскуп Парыжу з заклікам спыніць кровапраліцьцё. У краіне склалася крызісная сытуацыя. Урад імкнуўся тэрмінова прыняць захады па спыненьні хваляваньняў. Прэм'ерміністар Ж.Пампіду вырашыў адчыніць Сарбону з 13 траўня. Але з гэтым рашэньнем спазьніліся. Студэнты патрабавалі абавязковай адстаўкі міністра ўнутраных справаў і рэктара ўнівэрсытэту як галоўных вінаватых у паліцэйскіх расправах. Да таго ж самі хваляваньні ўжо выйшлі за рамкі выключна студэнцкіх. Першынство перайшло да працоўных прафсаюзаў, і таму ўрад быў вымушаны весьці перамовы зь імі. Сьведчаньнем масавасьці ўзьнятай хвалі выступленьняў можа быць 600 тысячная антыўрадавая дэманстрацыя ў Парыжы за стварэньне дэмакратычнага "народнага ўраду", а таксама ўсеагульная 24-х гадзінная забастоўка па ўсёй Францыі, што адбыліся 13 траўня.

Вынікам масавага народнага руху стаў роспуск 30 траўня Нацыянальнага сходу і прызначэньне новых парлямэнцкіх выбараў.

Чаго ж дамагліся самі студэнты? Папершае, яшчэ падчас травеньскіх па-

*працяг на ст. 8*

дзеяў быў выдадзены закон аб амністыі, і арыштаваныя студэнты атрымалі магчымасьць выйсьці на волю. Па-другое, была адтэрмінаваная сэсія, а ўмовы здачы іспытаў мусілі быць перагледжанымі. Па-трэцяе, быў прыняты закон аб арыентацыі вышэйшай адукацыі, згодна зь якім студэнцкія прадстаўнікі сталі ўваходзіць у склад радаў па кіраваньні ўнівэрсытэтамі.

Такім чынам, падзеі траўня 1968 году ў Парыжы прынесьлі пэўны плён студэнтам і іх праблемы выйшлі на дзяржаўны ўзровень. Быў створаны прэцэдэнт, які яшчэ доўгі час палохаў улады магчымасьцю свайго паўтарэньня. Увесь сьвет стаў сьведкам радыкалізацыі студэнцкага руху. Падтрымаць моладзь Францыі былі гатовы студэнты Англіі, Італіі і іншых краінаў.

### Позірк у будучыню

Ці магчыма ажыцьцяўленьне "парыскага" сцэнару ў нашай краіне? На сёньняшні дзень, напэўна, не. Аднак адмаўленьне моладзі ад успрыманьня інстытуталізаванай палітыкі ў выглядзе партыяў і дзяржаўных утварэньняў прымушае задумацца пра тыя формы, у якіх увасобіцца палітычная актыўнасьць цяперашніх і будучых студэнтаў. Зараз вялікую ролю ў маладзёвым асяродку пачала адыгрываць контракультура. Удзел у рок-канцэртах разглядаецца і як своеасаблівы выклік уладам, як праява апазыцыйнасьці. А пра наяўнасьць пэўнай колькасьці радыкальных маладзёвых арганізацыяў, якія сярод пасыўнай большасьці складаюць актыўную меншасьць, ужо згадвалася. Магчыма, у нашага студэнцтва барацьба за свае правы наперадзе, а па якім сцэнары яна будзе разгортвацца, залежыць і ад саміх студэнтаў, і ад палітыкі ўладаў

ТЭМА ................ Пыл гісторыі



Зьміцер Вайцэховіч

# КАТАЛІЦКАЯ адукацыя на Беларусі

Каталіцкія (а да 1054 року – проста заходнехрысьціянскія) місіянэры зьявіліся на нашай зямлі досыць рана. Гістарычныя крыніцы паведамляюць сама менш пра двух каталіцкіх біскупаў (адзін, магчыма, быў арцыбіскупам), што ўжо ў самым пачатку XI стагодзьдзя вялі хрысьціянізацыю паганскага насельніцтва Беларусі. Як вядома, у нас хрысьціянства распаўсюджвалася досыць цяжка, і якраз адзінаццатае стагодзьдзе было пераломным у барацьбе старога з новым.

Крыху раней за гэтых двух біскупаў прыбыў немец Бруна-Баніфацы, нашчадак славутай графскай радзіны. Зьвесткі пра ягоную дзейнасьць даволі легендарныя. Вядома толькі, што сваю місіянэрскую дзейнасьць біскуп ажыцьцяўляў на заходніх абшарах Беларусі, на зьмешаных балта-славянскіх землях і не аказаў на іх значнага ўплыву. Большую ролю адыграў біскуп колабжэскі Рэйнбэрн, які, як мяркуецца, займаў пінскую біскупскую катэдру і вёў даволі дзейсную хрысьціянізацыю мясцовага насельніцтва ў першай палове таго ж XI стагодзьдзя.

Аднак, у далейшым зьвесткі пра дзейнасьць каталіцкай царквы зьнікаюць. Вядома толькі, што ў Смаленску ў наступным XII стагодзьдзі будуецца мураваны каталіцкі храм-

ратонда. Але, як мяркуецца, ён абслугоўваў галоўным чынам заходнеэўрапейскіх купцоў. Можна таксама ўявіць, што падобныя храмы, толькі, хутчэй за ўсё, драўляныя, існавалі і ў іншых значных гандлёвых цэнтрах Беларусі.

Больш-менш трывалае пранікненьне каталіцтва на беларускія землі адбываецца толькі ўжо ў наступным XIII стагодзьдзі. Вядома, што беларускі вялікі князь Міндоўг у сярэдзіне XIIIст. прыняў каталіцтва і заснаваў каталіцкую біскупскую катэдру. Нягледзячы на тое, што Міндоўг пасьля пакінуў каталіцтва, ужо ў той час на беларуска-жмудзкім памяжоўі ў невялічкім на той час беларускім месьце Вільня засноўваюцца адныя зь першых на Беларусі касьцёлы, некаторыя зь якіх захаваліся й дагэтуль.

Ужо з пачатку XIV стагодзьдзя, як толькі сталіца Вялікага Княства была перанесена з Наваградка ў Вільню, у апошняй зьяўляюцца кляштары францішканаў і дамініканаў. Такім чынам, збольшага мы апісалі стан каталіцкай царквы на Беларусі да Крэўскай вуніі. З пранікненьнем вышэйпамянёных манаскіх ордэнаў на Беларусь у пачатку XIV ст. мы ўжо можам зь вялікай доляй упэўненасьці казаць пра існаваньне пры каталіцкіх кляштарах невялічкіх, напачатку, школак, як гэта практыкавалася імі па ўсёй Эўропе. Але нельга цалкам выключаць магчымасьці таго, што ўжо ледзь ня першыя каталіцкія біскупы (напрыклад, Рэйнбэрн) маглі рабіць спробы весьці асьветніцка-адукацыйную дзейнасьць сярод беларускага насельніцтва.

Тым ня менш, па-сапраўднаму масава каталіцкія школы пачалі ўзьнікаць толькі пасьля Крэўскай вуніі /1385/ і ўтварэньня Віленскага каталіцкага біскупства /1387/.

Мы ўжо ўзгадвалі Віленскую катэдральную школу. Яна адыгрывала ў нейкай ступені вядучую ролю ў адносінах да іншых катэдральных і парафіяльных школаў. Акрамя Вільні, катэдральныя школы былі створаныя і ў іншых мясцох, у тым ліку і ў Менску. Гэтыя школы складаліся з трох клясаў і знаходзіліся ў падпарадкаваньні капітула і, у прыватнасьці, схалястыкаў. Яны былі абавязаны клапаціцца пра памяшканьне для школы, сачыць за ўзроўнем выкладаньня. Схалястык быў непасрэдным кіраўніком. У такіх школах навучалі чытаньня, пісьма, катэхізыса і сьпеваў, выкладалі рэлігійныя абрады. Пасьля праграма была пашырана. Зьявіліся мовы лацінская й грэцкая, рыторыка, паэзія, гісторыя й арытмэтыка. У кожнай клясе быў свой настаўнік. Катэдральныя школы звычайна мелі грошы, а таму выкладчыкамі тут былі і бакаляўры. Каб падрыхтавацца да публічных выступаў, вучні дыспутавалі паміж сабой.

Набліжаліся да ўзроўню катэдральных і лепшыя мястовыя парафіяльныя школы. Тут таксама выкладаўся ніжэйшы цыкль сямёх вольных навукаў – квадрывіюм, што дазваляе лічыць гэтыя школы сярэднімі на той час навучальнымі ўстановамі. Трэба адзначыць, што ў некаторых мястовых школах пад ціскам мяшчанаў большая ўвага надавалася навучаньню практычных звычак вядзеньня запісаў учынных апэрацыяў, судовых справаў і г.д.

Куды ніжэйшым быў узровень вясковых парафіяльных школаў. Праграма некаторых зь іх абмяжоўвалася ўменьнем чытаць і пісаць. І катэдральныя, і парафіяльныя школы ў асноўным належалі царкоўным уладам. Але здаралася, што школы фундавалі й міране-каталікі, у тым ліку й Вялікія князі. Так, напрыклад, Жыгімонт у гонар перамогі над Скіргайлам заснаваў у 1434 року ў Ашмянах пры парафіяльным касьцёле, закладзеным Ягайлам ці Вітаўтам, калегію.

Колькі ўсяго існавала каталіцкіх школаў на Беларусі ў XIV-XV стст., вызначыць досыць цяжка. Праўда, калі ўлічваць, што каталіцкая царква на дадзены пэрыяд у Вялікім Княстве Літоўскім знаходзілася пад значным уплывам польскага духавенства, можна ўявіць сябе, што ў нас дзейнічалі тыя ж правілы, як і ў Польшчы, дзе яшчэ зь сярэдзіны XIII стагодзьдзя дзейнічала пастанова арцыбіскупа гнёзьненскага, паводле якой пры ўсіх парафіяльных касьцёлах павінны былі засноўвацца школы. Калі падобныя правілы дзейнічалі й на Беларусі, дык размову можна было б весьці пра дзясяткі школаў.

Гаворачы пра сярэднія й пачатковыя школы ў дадзены пэрыяд, нельга забывацца, што такі падзел вельмі ўмоўны і зроблены дзеля лепшага ўспрыняцьця яго сучасным чытачом. На самой справе ў сярэднявечнай адукацыйнай сыстэме існавала толькі два ўзроўні – вышэйшы (унівэрсытэт) і ніжэйшы (усе астатнія школы). Гэты ніжэйшы ўзровень, які складаўся з катэдральных і парафіяльных школаў быў падрыхтоўчым да паступленьня ўва ўнівэрсытэты. Акрамя таго, некаторыя такія вучэльні знаходзіліся пры Кракаўскім унівэрсытэце і называліся "акадэмічнымі калёніямі". Частка зь іх разьмяшчалася й на тэрыторыі Беларусі (напрыклад, такая "калёнія" з значнай бібліятэкай знаходзілася ў Белай). Унівэрсытэт забясьпечваў свае "калёніі" бакаляўрамі, магістрамі, а зрэдку і дактарамі філязофіі, што, безумоўна, значна павышала ўзровень адукацыі ў такіх школах, які дасягаў сямёх вольных навукаў.

У XVI стагодзьдзі сытуацыя мяняецца. Калі дагэтуль каталіцкія школы займалі фактычна манапольнае становішча ў краіне, дык зараз у іх

зьяўляюцца моцныя канкурэнты. Спачатку гэта былі пратэстанты ўсіх канфэсіяў, а пасьля праваслаўныя з брацкімі школамі і, нарэшце, уніяты. Ужо спачатку шаснаццатага стагодзьдзя стала відавочным крытычнае становішча ўва ўсёй школьнай каталіцкай сыстэме. Найперш, колькасьць школаў не адпавядала патрабаваньням, не задавальняла таксама і якасьць адукацыі. І вось у 1526 року віленскі біскуп Ян, фактычна паўтараючы ўжо ўзгаданага намі польскага арцыбіскупа XIII стагодзьдзя, загадаў, каб пры кожным касьцёле будаваліся дамы для навучаньня моладзі. Натуральна, што ў поўным аб'ёме загад гэты выканаць было немагчыма, бо ўжо да канца таго ж стагодзьдзя ў Вялікім Княстве налічвалася некалькі сотняў парафіяльных і іншых касьцёлаў. Але можна лічыць, што колькасьць новаўтвораных школаў даволі значна перавышала лік пяцьдзясят, на які ўказваюць некаторыя дасьледчыкі.

У хуткім часе Кракаўскі ўнівэрсытэт праводзіць рэформу мястовых і вясковых парафіяльных школаў. Ім была нададзена новая праграма, якая ўключала ў сябе лацінскую і грэцкую мовы, катэхізыс, рыторыку, паэзію, гісторыю, музыку, арытмэтыку й пасхалію. Усе гэтыя прадметы разьмяркоўваліся паміж клясамі. Падставаю для дзяленьня вучняў па клясах служыла розьніца ў іх разьвіцьці, здольнасьцях і стараннасьці да вучобы. Для кожнай клясы быў складзены адмысловы расклад урокаў. У ніжэйшых і старэйшых клясах заняткі ішлі такім парадкам. Новыя вучні займаліся чатыры гадзіны на дзень: дзьве да абеду й дзьве апасьля. Раніцай яны вывучалі літары і злучалі іх. Другі ўрок прысьвячаўся хрысьціянскаму чытаньню. Пасьля абеду вывучалі кароткія маральныя прамовы й тлумачэньне абедні. Вывучыўшы гэтыя прадметы, навучэнцы пераходзілі да скланеньня й спражэньня, якія вывучаліся ў першы ранішні ўрок. На другім вывучалася мараль: вучні знаёміліся з творамі Катона, Міхала Вера, Публія Сіра. Пасьля абеду вывучаліся лацінскі слоўнік і лісты Цыцэрона. Па суботах дадаткова выкладаліся арытмэтыка й вершы. Таксама па суботах у другой палове дня праводзіліся практыкаваньні па лацінскай мове й невялічкія дыскусіі паміж вучнямі па пройдзеным матар'яле. У старэйшай клясе было восем урокаў. Яны чаргаваліся наступным чынам: раніцай першая гадзіна прысьвячалася апытаньню ўроку з граматыкі, арытмэтыкі ці музыкі, другая - тлумачэньню граматыкі, трэцяя - Цыцэрону, чацьвертая - арытмэтыцы ці музыцы, якія чаргаваліся праз дзень. Пасьля абеду на першым уроку настаўнік апытваў заданьні з грэцкай мовы, паэзіі, на другім - тлумачыў грэцкія правілы й байкі ці "Прамовы" Плютарха. На трэцім уроку вучні займаліся паэзіяй, на апошнім, чацьвертым - гісторыяй. Кожны ўрок суправаджаўся апытаньнем ці дыспутам. Па суботах правяраўся пройдзены матар'ял за ўвесь тыдзень, чыталіся ўслых Цыцэрон і паэты, катэхізыс і арытмэтыка.

Таксама трэба адзначыць, што беларуская мова была моваю выкладаньня ў каталіцкіх пачатковых школах у XIV-XVII стагодзьдзях.

У наступных XVII-XVIII стагодзьдзях, ажно да рэформаў Адукацыйнай камісіі, істотных зьменаў у пачатковай адукацыі не было. Адбыліся некаторыя зьмены ў канфэсійнай прыналежнасьці школаў. Так, некаторыя зь іх перайшлі ад праваслаўных да ўніятаў, якія, у сваю чаргу, паспрыялі захаваньню беларускай мовы ў пачатковай адукацыі. Каталіцкія ж школы вызначаліся зайздроснай стабільнасьцю, некаторыя зь іх, узьнікнуўшы ў XIV стагодзьдзі, здолелі захавацца і праіснавалі да канца XVIII стагодзьдзя, і такіх было ня так ужо мала. У гэтых жа XVI-XVIII стагодзьдзях атрымалі сваё далейшае разьвіцьцё прыватныя школы. Бадай, адной з найбольш неардынарных прыватных школаў была школа, якую заснаваў славуты беларускі філёзаф-атэіст Казімер Лышчынскі ў сваім маёнтку. Праўда, што натуральна па тым часе, гэтая школа спыніла сваю дзейнасьць са сьмерцю К.Лышчынскага.



працяг у наступным нумары

ТЭМА

# Твой выбар

**Вольга Шылай**
Студэнтка гістарычнага факультэту БДУ

**“Калі Вы сустрэлі на вуліцы надзвычай спачувальных людзей, якія прывядуць Вас у самую цёплую кампанію, дзе лідарам будзе самы натхнёны, самы ўважлівы і так добра разумеючы Вас чалавек, калі Вам паведамяць, што мэта гэтай групы настолькі высокая, што Вы і ня марылі яе дасягнуць – ведайце, што ўсё гэта надта прыгожа, каб быць праўдай”.**

*Зь дзёньніка Джэні Мілз, сябры сэкты “Народная вежа”.(Загінула ў Гаяне 18 лістапада 1978 году падчас масавага самагубства.)*

Старыя ідалы, а зь імі і асноўныя ідэалягемы “партыя-народ”, “сацыялізм-камунізм” былі зьвергнуты. Ня ўсе ў іх шчыра верылі, але штодзённае “замбіраваньне” праз газэты, радыё, тэлебачаньне выхавала адчуваньне іх сапраўднасьці і ўстойлівасьці. Адсутнасьць магчымасьці параўноўваць кансэрвавала мысьленьне. “Перабудова” выбіла людзей з звыклай каляі, прымусіла іх думаць і самастойна знаходзіць адказы на спрадвечныя пытаньні «хто я?», «як жыць? «, «што рабіць?», «дзе шукаць сапраўдныя ідэалы?» і г.д. У выніку дзесяцігадовага сыстэматычнага вынішчэньня традыцыйных адносінаў да агульначалавечых маральных каштоўнасьцяў узьнік духоўны вакуум.

А інакш як растлумачыць тую вялікую колькасьць астралягічных прагнозаў на тыдзень, месяц, год і ўсё жыцьцё, зьмешчаных у шматлікіх газэтах,часопісах і асобных выданьнях? Газэты, што карыстаюцца асаблівым попытам у электрацыях, акрамя апісаньня ўсялякіх злачынстваў, поўныя містычных забабонаў.Нават у ВНУ з вуснаў выкладчыкаў можна пачуць пра сатанінскі ўдзел у падзеях, зьвязаных, напрыклад, з абстрэлам Белага дому ў Маскве. Вера ў ірацыянальнае, у наканаванасьць лёсу таксама найпрасьцейшы адказ на праблемы. Захапленьне тэлесэрыялямі, перажываньне за чужыя лёсы, свайго роду “жыцьцё чужымі праблемамі” – яшчэ адзін варыянт адыходу ад незразумелай і складанай рэальнасьці. У духоўным вакууме апынулася ня толькі старэйшае пакаленьне, але й моладзь, якая пры адсутнасьці якой-небудзь цэласнай сыстэмы каштоўнасьцяў у спалучэньні з татальным недаверам да такіх грамадзкіх інстытутаў, як палітычныя партыі, урад, армія, царква, а таксама стратай веры ў ідэалы, у сям`ю, сяброўства, каханьне (і ўсё гэта ў атмасфэры некаторага страху перад надыходам новага тысячагодзьдзя), кінулася ў нетрадыцыйную для нашага асяродку сфэру ўсходніх рэлігіяў, заходніх культаў і інш.

Некалькі іншы працэс зараз мы назіраем у правінцыі, якая і ў савецкі час стварыла сваю субкультуру, дзе, хоць і ў трансфармаваным выглядзе, захаваліся традыцыйна-патрыярхальныя адносіны. Разрыў паміж гарадзкой і вясковай культурамі, паміж сталічным і правінцыйным жыцьцём абумовіў фармаваньне своеасаблівай сьвядомасьці ў людзей з глыбінкі, з характэрнай ёй некаторай кансэрватыўнасьцю поглядаў, з аднаго боку, і прагай да пазнаньня ўсяго новага, з другога.

Гэтым тлумачыцца той дыскамфорт, што зьяўляецца ў маладых людзей, якія паступілі ў сталічную ВНУ, у сувязі з новым месцам жыхарства (не заўсёды ўтульным), адсутнасьцю сяброў і цяжкасьцямі ў навучаньні. Гэта патрабуе нейкай кампэнсацыі і, часьцей за ўсё, па-за межамі навучальнай установы. Варыянты могуць быць самыя розныя: ад аўтаркіі (замыканьня ў межах інтэрнату сярод сваіх жа) да хаатычнага пошуку ў розных сфэрах сталічнага жыцьця.

Хтосьці трапляе ў музычныя групоўкі-тусоўкі, дзе маецца свой аўтарытэт – сьпявак або група. Твой прэстыж павышаецца, калі ты ведаеш больш за іншых пра дадзены музычны накірунак, жывеш і апранаешся адпаведна прынятаму ў групоўцы стылю. Тут п’юць піва і размаўляюць, гуляюць і слухаюць музыку. Але эпатажныя паводзіны сталічных тусовак не заўсёды зразумелыя людзям зь ціхай, шмат у чым традыцыйнай правінцыі. Да таго ж патрэбны грошы на музычную тэхніку,

модную вопратку і іншыя атрыбуты, а іх таксама няма адкуль узяць. Хтосьці захапляецца спортам, марыць мець вялікія біцэпсы і г.д.

У любым выпадку падсьвядома ідзе параўнаньне дзьвюх культур, адбываецца пераацэнка каштоўнасьцяў, паўстаюць новыя глябальныя пытаньні, на якія бацькі ня ў стане даць адказы.

Такім чынам, недавер да традыцыйных інстытутаў, цяжкасьці, зьвязаныя з вучобай і новымі ўмовамі жыцьця, і адсутнасьць упэўненасьці ў сабе робяць студэнтаў з глыбінкі лёгкай здабычай для тых, хто прапануе самае лёгкае вырашэньне праблем, а дакладней адвяргае іх як існасьць.

Гэтых людзей, звычайна маладых хлопцаў і дзяўчатаў, можна адразу вылучыць з натоўпу па вачох і застылай усьмешцы. Падыходзяць і задаюць пытаньне: «ці верыце Вы ў Бога?», «чаму сьвет поўны зла?», "у чым крыніца зла?"... Ім не патрэбная ваша думка, галоўнае – выкласьці свае асноўныя палажэньні і запрасіць вас да сябе, зьвярнуўшы ўвагу на тое, што іх царква сапраўдная і валодае ісьцінай.

Найбольш актыўнай сэктай на Беларусі зьяўляюцца муністы (Царква яднаньня). Сустракаюцца таксама прадстаўнікі пяцідзясятнікаў і сьведкаў Яговы.

Сэктанты ўва ўсе часы лічылі і лічаць сябе "абранымі сьвету гэтага". Каму б прыхільнікі сэкты не пакланяліся – Богу або д'яблу – яны заўсёды вераць у сваю элітарнасьць. Вось характэрныя прыкметы любой сэкты:

1. На чале стаіць харызматычны лідар, які сьцьвярджае, што ён атрымаў новае ўнікальнае "адкрыцьцё" адносна Бога і рэальнасьці. На яго думку, кожны, хто не падзяляе яго поглядаў, ня проста памыляецца, а зьяўляецца пасьлядоўнікам сатаны.
2. Лідар стварае асаблівую "сям'ю" або камуну, у якой яго называюць "бацькам". Тыя, хто ўступае ў яе, звычайна прымаюць новыя імёны.
3. Кіраўнік усталёўвае абавязковыя для ўсіх нормы паводзінаў, але не заўсёды прытрымліваецца іх сам. Звычайна ён жыве ў непараўнальна лепшых умовах, чымся ягоныя пасьлядоўнікі.
4. Група прытрымліваецца апакаліптычнага погляду на сьвет. Сябры арганізацыі часта адмаўляюцца ад асабістай маёмасьці і мяняюць месца жыхарства.
5. Выкарыстоўваецца добра адпрацаваная тэхніка кантролю за паводзінамі навернутых, якая звычайна ўключае ізаляцыю ад зьнешняга сьвету. Гэтая тэхніка вядомая як "прамываньне мазгоў" і накіраваная на тое, каб паралізаваць асабістую сьвядомасьць. Яна можа набыць форму "сэмінараў", сумесных набажэнстваў, завучваньня біблійных выказваньняў і праслухоўваньня запісаў казаньняў лідара, лекцыяў аб прынцыпах веры, мэханічных танцаў і г.д.

Не чакайце, што людзі на вуліцы паведамяць вам, што яны – сябры нейкай сэкты.Вас запросяць на лекцыю, прысьвечаную сьветапогляду, рэлігіі, сям'і, шчасьцю...

У якасьці прыкладу больш падрабязьней разгледзім сэкту муністаў як адну з найбольш актыўных сярод тых, што дзейнічаюць на Беларусі.

Муністы "з стажам" – найлепшыя майстры вэрбоўкі адэптаў. Яны зрэдку зьвяртаюцца да людзей, якія могуць паспрачацца, аддаючы перавагу юнакам і дзяўчатам добрых паводзін, скрытных, няўпэўненых у сабе. Іх падручнік па рэкрутаваньні вучыць быць псыхолягам і ўмець чытаць твары.

Кіраўніком Царквы яднаньня зьяўляецца Сун Муінг Мун, які нарадзіўся ў Паўночнай Карэі ў 1920 годзе. Падчас навучаньня ў школе ён наведваў малітоўныя сходы пяцідзясятнікаў. У 16 год ён атрымаў відзежу, у якой яму зьявіўся Ісус Хрыстос і даручыў выканаць справу, якую ён не завершыў. Новыя веды зьмешчаны ў "Поўным запавеце" — "Боскім прынцыпе". "Боскі прынцып" — гэта новае тлумачэньне Бібліі, якое абапіраецца на адну з усходніх філязофій – таасізм. Паводле гэтай тэорыі, усё ў сваім падмурку мае "інь" і "янь" — адмоўны, мужчынскі і жаночы пачатак. Усё, што робіць Бог, успрымаецца як узаемадзеяньне паміж "інь" і "янь" тыпу "даць-узяць". Мун лічыць сям'ю ўтварэньнем нячыстай сілы, бо Ева саграшыла з сатаной, які прыняў выяву зьмея. Хрыстос ("другі Адам"), як і нашыя праайцы Адам і Ева, быў народжаны бязгрэшным, але не пасьпеў выканаць сваю місію – уступіць у шлюб зь ідэальнай зямной жанчынай і нарадзіць на сьвет чыстых ад граха "дасканалых" дзяцей. Паколькі Мун таксама бязгрэшны, то разам з сваёй жонкай яны складаюць Сапраўдную сям'ю. Толькі ўступіўшы ў яе, чалавек можа выратавацца. А сапраўдныя бацькі й родныя зьяўляюцца прадстаўнікамі "сатанінскага", грахоўнага сьвету. Маладыя людзі, якія маюць праблемы ў сям'і, цягнуцца да падтрымкі, якая робіць іх дзецьмі гэтай альтэрнатыўнай сямейнай структуры , якая гарантуе выратаваньне.

Нельга сказаць пра наяўнасьць ганеньняў на арганізацыю з боку дзяржавы, як любяць сьцьвярджаць самі адэпты (гэта яшчэ больш спрыяе згуртаваньню). У 1990 годзе Міхаіл Гарбачоў прыняў у Крамлі пра-

падобнага Муна. Пасьля гэтай сустрэчы Царкве яднаньня быў адкрыты шлях на прасторы СССР, у тым ліку і Беларусь.

Што, здавалася б, дрэннага ў тым, што маладыя людзі дасылаюць анкеты свайму “бацьку” і той падбірае ім партнэра, уладкоўвае іх сямейнае шчасьце з самым незвычайным вясельлем. Блесінг – цырымонія, на якой адразу дзясяткі тысячаў маладых параў уступаюць у шлюб. Да размоваў пра грошы тут ставяцца з пагардай, але блаславеньне “дзеці” атрымліваюць за дакладную таксу. Сыстэма аплаты даволі гібкая, Мун улічвае эканамічны ўзровень разьвіцьця краіны. Японцы й амэрыканцы плоцяць па 2 тысячы даляраў, у сярэднім тарыф роўны 300 даляраў; для Расіі ўсяго 60 – гэта толькі за ўдзел у цырымоніі (нагадаем — 1992 год, Сэул – 60 тысяч шлюбных параў; у 1995 годзе плянавалася 360 тысяч, зь іх 60 тысяч – у Расіі).

Мун плаціць толькі пры першай зьдзелцы – за далучэньне да арганізацыі. Плаціць школьнікам, студэнтам, настаўнікам, праз шчодрае фінансаваньне бясплатных сэмінараў, паездак па краіне й сьвету. Смачна кормяць, селяць у добрыя гатэлі, клапоцяцца пра цікавы вольны час. Празэліту даецца пазыка, якую патрэбна будзе вярнуць. Як? Па-першае, далучыць да руху яшчэ як мінімум пяцёх; па-другое, весьці збор ахвяраваньняў у славу вялікага Муна ўсюды, дзе пададуць: на вуліцах, прадпрыемствах, ува ўстановах.

Спэцыяльная расійская камісія адносіць Царкву яднаньня да дэструкцыйных культаў і ставіць яе побач з такімі, як вядомае “Белае брацтва”, “Аум сінрыкё”, «Царква саенталёгіі», “Сьвядомасьць Крышны”. Камісіяй, куды ўвыходзілі прадстаўнікі ДНЦ сацыяльнай і судовай псыхіятрыі, былі зроблены наступныя вывады:

- шкода здароўю праяўляецца ў форме правакаваньня стану трызьненьня, паталягічна звышкаштоўных ідэй і паталягічнага разьвіцьця асобы, а таксама фізычнага і псыхічнага зьнясіленьня, якія ствараюць перадумовы для іншых захвораваньняў, а менавіта для перапыненьня рэпрадукцыйнай функцыі чалавека;
- парушэньні суправаджаюцца сямейнай і сацыяльнай дэзадаптацыяй асобы, што ставіць яе па-за сям’ёй, грамадзтвам і дзяржавай;
- шкода здароўю і асобе адбываецца ў выніку сукрытага псыхічнага гвалту й маніпуляваньня сьвядомасьцю пад выглядам казаньняў, абрадаў, рытуалаў; у выніку агрэсіўнага ўзьдзеяньня на сьвядомасьць аж да глыбокага гіпнозу і самагіпнозу, што адбываецца ў выніку выкарыстаньня спэцыяльных псыхіятрычных мэтадаў падчас літургій, абрадаў, ініцыяцый і мэдытацый.

На шчасьце, у нас на Беларусі не было вельмі гучных справаў, зьвязаных зь дзейнасьцю сэктаў, але назіраецца іх узрастаючая вага ў арэндзе памяшканьняў Дамоў культуры, відавочнае імкненьне запоўніць сваёй ідэалёгіяй культурнае жыцьцё людзей. Адсутнасьць разнастайнасьці і шматлікасьці таталітарных сэктаў зараз можна растлумачыць, па-першае, тым, што іх рэпутацыя ў значнай ступені была “падмочана” у сувязі з гучнай спробай самазабойства ў Кіеве, а таму яны не афішуюць сваю дзейнасьць. Па-другое, хаця ўсе сэкты вельмі добра прыжываюцца на глебе духоўнага крызысу, ня ўсе яны добра сябе адчуваюць ува ўмовах эканамічнага заняпаду краіны, калі адсутнасьць вялікіх грошай у большасьці насельніцтва робіць іх дзейнасьць матэрыяльна невыгоднай.



# Камэнтар і парады юрыстаў

Зікрацкі Сяргей,
Зікрацкі Зьміцер

Студэнты факультэту права БДЭУ



Права на свабоду сумленьня і свабоду веравызнаньня зьяўляецца адным з асноўных правоў чалавека. Праўда, рэалізоўвацца яно ў нашай рэспубліцы пачало адносна нядаўна, калі дзяржава зьняла фактычную забарону зь дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў (юрыдычна свабода веравызнаньня абвяшчалася нават у савецкі час). Аднак, пасьля дазволу дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў, як звычайна бывае, недастаткова добра былі ўрэгуляваны ўсе зьвязаныя з гэтым прававыя пытаньні. І гэта выклікала даволі сур'ёзныя наступствы. Свабода ж ня можа быць абсалютнай; калі яна абсалютная – яна перарастае ў сваю супрацьлегласьць. У нашай рэспубліцы ёсьць вялікая верагоднасьць перарастаньня свабоды веравызнаньня ў залежнасьць людзей ад дзейнасьці рэлігійных сэктаў.

Дакладнага азначэньня сэкты заканадаўства не дае, тым ня менш, склалася меркаваньне, што сэктамі лічацца дэструктыўныя рэлігійныя арганізацыі, якія ставяць на мэце зьмену сьвядомасьці чалавека, абсалютнае падпарадкаваньне яе поглядам і патрабаваньням.

Усе сэкты можна падзяліць на дзьве вялікія групы: першыя, якія афіцыйна зарэгістраваны як рэлігійныя арганізацыі, створаныя для сумеснага вызнаньня яе сябрамі якой-небудзь рэлігіі; і другія, якія не зарэгістраваны афіцыйна і дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі нелегальна.

Рэгістрацыяй рэлігійных арганізацыяў на Беларусі займаюцца абласныя і Менскі гарадзкі выканкамы або Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў (у залежнасьці ад віду рэлігійнай арганізацыі). Асноўным дакумэнтам (акрамя нарматыўна-прававых актаў РБ), які кіруе рэлігійнай арганізацыяй у яе дзейнасьці, зьяўляецца афіцыйна зарэгістраваны ў гэтых органах статут арганізацыі. Калі дзейнасьць рэлігійнай арганізацыі не адпавядае статуту або заканадаўству РБ, яна можа быць ліквідавана.

Для людзей, якія трапілі пад уплыў сэкты, а таксама для іх родных і блізкіх, заканадаўства прадугледжвае некалькі магчымасьцяў для спыненьня гэтага ўплыву і папярэджаньня яго наступстваў. Часьцяком уплыў сэкты на чалавека зводзіцца да таго, што ён гатовы ахвяраваць (і сапраўды ахвяруе) ёй свае грашовыя сродкі, а таксама значную частку сваёй маёмасьці. У гэтым выпадку шанцы вярнуць сваю маёмасьць ёсьць, і для гэтага нават ня трэба даказваць дэструктыўнасьць сэкты. Калі дараваньні сэкце ажыцьцяўляў непаўналетні (ён паводле закону зьяўляецца абмежавана дзеяздольным і ня можа заключаць зьдзелкі ў буйных памерах), то на падставе рашэньня суду падараваная маёмасьць вяртаецца да яе законных уладальнікаў. Калі ж пад уплыў сэкты трапіў дарослы чалавек, які пэрыядычна ахвяроўвае ёй сваю маёмасьць, то такога чалавека можна вызнаць (зноў жа, па пастанове суду) абмежавана дзеяздольным і прызначыць над ім апеку.

Аднак жа вырашэньне маёмасных спрэчак не здымае праблемы сэктаў у цэлым, таму што сябра сэкты ўсё роўна застаецца пад яе ўплывам. Закон прадугледжвае некалькі падста-

ваў для ініцыяваньня пытаньня аб зачыненьні рэлігійнай арганізацыі. У нашым выпадку найбольш магчымым зьяўляецца спалучэньне абрадавай ці прапаведніцкай дзейнасьці рэлігійнай арганізацыі з замахам на жыццё, здароўе, свабоду і годнасьць асобы; а таксама прымушэньне грамадзян да невыкананьня сваіх канстытуцыйных абавязкаў або ўчыненьня дзеяньняў, якія суправаджаюцца грубымі парушэньнямі грамадзкага парадку. У выпадках, калі рэлігійныя арганізацыі ўчынілі падобныя парушэньні, грамадзяне могуць зьвярнуцца ў орган, упаўнаважаны праводзіць іх рэгістрацыю (Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў, а таксама абласныя і Менскі гарадзкі выканкамы), або ў пракуратуру з скаргай на гэтую арганізацыю. І толькі па заяве гэтых органаў суд разглядае справы аб спыненьні дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў.

Ва ўсялякім выпадку, з усімі пытаньнямі па дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў можна зьвяртацца ў Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў, а таксама ў выканкамы, дзе ствараюцца адпаведныя аддзелы.

З тымі сэктамі, якія не зарэгістраваны і дзейнічаюць нелегальна, яшчэ цяжэй, паколькі прадухіліць учыненьне імі злачынства нельга. Адзінае, што застаецца ў дадзеным выпадку – гэта артыкул Крымінальнага кодэксу, які прадугледжвае пакараньне за арганізацыю або кіраваньне групай, дзейнасьць якой праводзіцца пад выглядам выкладаньня рэлігійных веравучэньняў і выкананьня рэлігійных абрадаў і спалучаецца з нанясеньнем шкоды здароўю грамадзян або зь іншым замахам на асобу ці правы грамадзян, а роўна з прымушэньнем грамадзян да адмовы ад грамадзкай дзейнасьці або выкананьня грамадзянскіх абавязкаў (артыкул 222 Крымінальнага кодэксу). Гэты артыкул тычыцца, дарэчы, і зарэгістраваных рэлігійных арганізацыяў. Аднак жа, усе апісаныя мэханізмы існуюць шмат у чым толькі на паперы. На практыцы, на жаль, усё значна цяжэй, што тлумачыцца некалькімі прычынамі. Па-першае, дзейнасьць многіх дэструктыўных сэктаў пабудавана на ўплыве на сьвядомасьць чалавека, а даказаць, што зьмены ў псыхіцы чалавека адбыліся менавіта пад уплывам рэлігійнай сэкты, практычна немагчыма. Па-другое, на Беларусі адчуваецца недахоп спэцыялістаў-рэлігіязнаўцаў, якія б прафэсійна ацэньвалі дзейнасьць рэлігійнай арганізацыі, маглі б своечасова папярэдзіць аб магчымай небясьпецы і, калі неабходна, даказаць у судзе дэструктыўнасьць рэлігійнай арганізацыі. На жаль, у Савецкім Саюзе рэлігіязнаўцаў практычна не рыхтавалі, а маладых спэцыялістаў яшчэ не хапае.

Такім чынам, асноўная парада, якую можна даць, гэта пастарацца пазьбегнуць уплыву гэтых сэктаў на Вас і Вашых родных.



*унікальны здымак -*
тайныя сэктанцкія рытуалы

# Як здаць іспыт?

Яраслаў Карпюк

Для вырашэньня праблемы здачы іспытаў існуюць два шляхі – правільны і альтэрнатыўны. Правільны шлях – гэта вучыцца, вучыцца цэлы сэмэстар, цэлы год, а тады здаць. Але так здаць іспыт можа кожны дурань. Большасьць студэнтаў ня з дурняў, а таму абіраюць альтэрнатыўны шлях, такі, каб не вучыцца, не вучыцца цэлы сэмэстар, цэлы год, а тады ўжо здаць! І сапраўды, гэты здабытак варты сучаснага інтэлектуала. Але як яго дасягнуць?

У гэтым выпадку навукоўцы-эскуляпы раяць ужываць спэцыяльную дыету. Дыета – гэта калі чалавек не спажывае чаго ня трэба, а замест гэтага спажывае тое, што трэба. Вось так наесца чалавек (а студэнты таксама часам бываюць людзьмі), тады пагартае кніжкі, пазазірае ў канспэкты і здасьць той іспыт.

Што ж патрэбна есьці? Навука кажа, што есьці трэба правільна падабраныя прадукты харчаваньня, якія мусяць зьмяшчаць неабходныя элемэнты. А таму ніколі не спажывайце няправільна падабраныя прадукты харчаваньня, якія не зьмяшчаюць неабходныя элемэнты! Інакш вам гамон на іспыце. Ніякія кніжкі з канспэктамі не дапамогуць!

Адным зь неабходных элемэнтаў, як уважае навука, зьяўляецца бялок. Кажуць, што 75-кілясграмовы студэнт мусіць спажываць 112-150 грамаў бялка ў суткі. Падзелім гэта на 30 грыўнаў (15$) стыпэндыі, якую ня плацяць, і атрымаецца, што 75-кіляграмовы студэнт на сёньняшні дзень бялком сябе забясьпечыць ня здольны, калі толькі ня мае



спонсараў. У іншым выпадку можна або скараціць акадэмічныя нагрузкі, або павялічыць стыпэндыю.

Лягчэй студэнт або студэнтка можа здаць іспыт, калі маці зь вёскі цяжкі клунак перадасьць. Але не заўсёды справу пасьпяховай здачы іспыту можа вырашыць торба з шынкамі, каўбасамі ды кумпякамі.

Навука дыеталёгія ды яе навукоўцы дыетолягі вызначылі, што для таго, каб "варыла" галава, патрэбны ёд. Не выпадкова ж вялікія цывілізацыі ўзьніклі "па берагох вялікіх вадаёмаў"! Менавіта таму гаране, напрыклад, былі крыху тупаватымі, бо жылі далёка ад мора й ім не хапала ёду. Дык вось, заўважана, што каля студэнцкіх інтэрнатаў часьцяком утвараюцца вадаёмы. Асабліва ўвосень-узімку-ўвесну, калі студэнты, уласна, выконваюць свае студэнцкія абавязкі. Здараецца, праз гэтыя вадаёмы цяжка патрапіць у інтэрнат. Таму ёду студэнтам, што жывуць на першых паверхах інтэрнатаў, дастаткова.

Але ёсьць такія студэнты, якія разьмяшчаюцца на паверхах вышэйшых. Там вады ніколі не бывае—да зямлі далёка, а ціск у воднай помпе слабы. Што ж ім рабіць дзеля таго, каб выдатна здаць іспыт? Можна вучыцца да атупеньня, але гэта ня выйсьце. Лепш ужо набыць ёд у аптэцы й змазаць ім шпоры. Шпоры трэба добра схаваць, пранесьці іх на іспыт, а там пэрыядычна даставаць з схованак і нюхаць. З шпаравым паветрам у арганізм трапіць ёд, і экзаменацыйная тупасьць адступіць. Калі ж, не зьвяртаючы ўвагу на гэта, выкладчык пачне пытацца ў вас штосьці дурное, паспрабуйце даць панюхаць вашыя ёдаваныя шпоры яму. Можа гэта вас выратуе...

Для студэнтаў, што вывучаюць замежныя мовы, на думку дыетолягаў, акрамя ёду конча патрэбны яшчэ й цынк. Некаторыя студэнты гэта разумеюць. Яны перад сэсіяй з роспачу грызуць ацынкаваныя вёдры. Граніт чужамоўнай навукі яны грызьці не наважваюцца, бо няма калі й ён занадта цьвёрды.

Усім студэнтам, без выключэньняў, патрэбныя вітаміны, асабліва ў гарачую пару іспытаў. Кажуць, што найважнейшым зьяўляецца вітамін С — мяска, сальца, вінцо, піўцо. Некаторыя студэнты ўсім гэтым злоўжываюць. А навука вучыць, што ня варта перавышаць аптымальную дзённую норму чыстага вітаміну С — 80 мг. Колькі яго месьціцца ў вінцы ці піўцы, трэба вызначыць экспэрымэнтальна. Цалкам пакладацца на тое, што напісана на этыкетцы, нельга — часам нядобрасумленныя вытворцы дадаюць у тое й другое ваду й зьніжаюць такім нячэсным чынам канцэнтрацыю вітаміну.

Каб не вышукваць па разнастайнай гароднiне кожны вiтамiн асобна, дыетолягi раюць есьцi полiвiтамiны.

Можна звычайна...Прынамсi, набыць у аптэцы полiвiтамiны лепш, чымся па парадзе прафэсара выччварацца над напiсаным iм падручнiкам. Полiвiтамiн хоць зьесьцi можна, а падручнiк што? Яго й чытаць ня будзеш, бо нудны, i выкiнуць шкада, бо ён грошай каштаваў — ляжыць сабе й пылюку зьбiрае.

Такiм чынам, дыетолягi раяць студэнтам напярэдаднi iспытаў адмысловы ад харчаваньня. Пры гэтым, усе парады адносныя, бо парукаю ўсяго добрага, у тым лiку пазытыўных балаў у залiкоўцы, ёсьць рацыянальная кухня, правiльны адпачынак i добра сплянаваная праца. Таму, спадары студэнты i студэнткi розных вагавых катэгорыяў, за пэўны час перад сэсiяй наведайце кухню i агледзьце яе на прадмет рацыянальнасьцi. Калi трэба — рацыяналiзуйце яе, скажам, памяняйце месцамi стол зь лядоўняй. Таксама калi вы кладзяцеся цi сядаеце адпачываць, то не забудзьцеся запытаць сябе: "А цi правiльна я гэта раблю?" Калi вы атрымаеце нэгатыўную адзнаку, то варта спынiць няправiльны адпачынак.

I нарэшце, апошняе — праца. Калi вы акрамя навучаньня працуеце — там бiзнэсам займаецеся цi што, — то добра яго сплянуйце. Бо што гэта будзе, калi ў час, у якi вы адказваеце на першае пытаньне, на вас наскочыць падатковая, а калi дойдзеце да трэцяга — наедзе рэкет? Ну пры чым тут прафэсар?! Плянаваць трэба добра й не прызначаць спатканьня з усiмi трыма на адну й тую ж гадзiну. Так што, думайце. Iспыт рэч паважная. Хай вам пашчасьцiць!..

*Перадрукавана з украiнскага маладзёвага часопiсу "Смолоскипи" ("Паходнi"), 2(7)`97*



Iльля Глыбоўскi

# Прага за 19 $

У гэтую вясну, у красавiку месяцы, двум менскiм студэнтам, сярод якiх быў i аўтар гэтых радкоў, удалася вандроўка ў Прагу чэскую. Мэты вандроўкi былi наступныя: 1) як мага болей пабачыць у Празе ды ваколiцах, у тым лiку зьвязанага зь беларускай прысутнасьцю; 2) зрабiць гэта як мага таньней.

У гэтым артыкуле распавяду пакуль аб тым, як мы дабiралiся зь Менску да Прагi. Можа каму-небудзь гэта прыдасца гэтым летам. Дарэчы, разам з аповедам буду прыводзiць нешта падобнае да кашгарысу.

Пачну з падрыхтоўчых апэрацый. Першае, чым мы авалодалi – гэта карткамi ISIC (International Student Identity Carol). Гандлююць iмi амаль усе студэнцкiя прафсаюзы (афiцыйныя) менскiх ВНУ. Каштавала картка 6 даляраў. Другая падрыхтоўчая апэрацыя – набыцьцё чэскага ваўчару. Трэба проста набыць газэту з аб'явамi турфiрмаў i пасядзець на тэлефоне, каб высьвятлiць кошт. На той момант самы танны ваўчар каштаваў 400 тысяч рублёў (8 даляраў) . I яшчэ адно: у турфiрме будуць iмкнуцца ўсучыць у дадатак нейкi беларускi ваўчар за 100 тыс. руб., якi нiбыта па новых нейкiх законах дае права на выезд за мяжу. Мы ад гэтага адразу адмовiлiся i правiльна зрабiлi – бо нiхто i нiдзе яго ў нас не запытваў (не вядома, як зараз!). На гэтым падрыхтоўка сканчаецца й можна выпраўляцца ў дарогу. Ледзьве не забыўся: не зашкодзiць узяць дзьве паўлiтры ды два блёкi цыгарэт.

Нашая вандроўка пачалася каля сямёх гадзiн вечара. Зь Менску да Берасьця дабiралiся на электрычцы (iльготны бiлет каля 40 тыс.руб., прыкладна 0,1 даляра). У Берасьцi былi позна ўначы й да першай электрычкi на Тэрэспаль было яшчэ гадзiн восем. Выравшылi iсьцi цераз аўтапераход "Варшаўскi мост". На вакзале спыталi ў таксiстаў кошт праезду да пераходу – у адказ пачулi: «5 даляраў». З словамi "няма дурных!" рушылi па начным Берасьцi

пешкі. Цераз 10 хвілін хады знайшлі таксіста (ці, хутчэй, ён нас знайшоў), зь якім згандляваліся на 50 тыс. руб. (1 даляр на двох). На "Варшаўскім мосьце" падселі ў "Палянэз" да паляка, паабяцаўшы блёк "Магны" (170 тыс. руб. ці 3,4 дал. на двох). Каля чатырох гадзін прасоўваліся цераз памежнікаў, мытнікаў, мытнікаў і памежнікаў. За гэты час высьветлілі, што гэта паляк зь Бялы-Падляскі, ды паабяцалі, што калі давязе да вакзалу ў сваім горадзе (30 км ад Тэраспаля), то дадамо яшчэ бутэльку гарэлкі (1 даляр на двох), на што ён з ахвотай згадзіўся.

А пятай раніцы былі ўжо ў Бяле-Падляскай. Там набылі ільготныя квіткі (на чыгунцы ў Польшчы скідка студэнтам 50% на pociag pospieszny да Чэнстаховы (13,43 злотых ці 4 дал.). Дарэчы, касірка на вакзале доўга круціла ISIC у руках, не жадаючы прадаваць ільготны квіток, пры гэтым кажучы: "Чаго толькі гэты Менск людовы — у сэнсе сацыялістычны — не прыдумае, каб задарма езьдзіць!" Але ў суседнім акенцы набылі ільготныя безь ніякіх слоўных перапалак.

А сёмай раніцы, заняўшы ўдвох васьмімеснае купэ, адкінуліся ў сон пасьля мытна-памежнай ночы. Праехаўшы 403 км, удзень ужо былі ў Чэнстахове (цягнікі ў іх сапраўды пасьпешныя). Набыўшы на базары трохі таннага ды якаснага харчу й, зьмяняўшы даляры на злотыя ды чэскія кроны, рушылі на электрычцы на Катавіцы (86 км, 4,05 злотых ці 1,2 дал.). У Катавіцах да бліжэйшага цягніку на Прагу прыйшлося чакаць каля пяцёх гадзін. Пасьля бадзяньня па горадзе ды назіраньня за вакзальным жыцьцём набылі квіткі да Астравы (16,02 злотых ці 4,84 даляры за 102 км). Польска-чэскую мяжу (Зэбжыдавіцэ-Петравіцэ ў Карвіне) перасяклі каля дзьвюх ночы. Чэскія памежнікі не глядзелі нават ваўчар (ён спатрэбіўся толькі для транзыту цераз Польшчу), але ветліва спыталі, колькі ў нас грошай. 150 даляраў на тыдзень яны палічылі больш чым дастатковым для нас і пажадалі добрай дарогі. А 2.45 былі ўжо ў Астраве. Так дакладна памятаю час, таму, што вакзал у Астраве а 3-й ночы зачыняюць і прайсьці на яго можна толькі маючы квіток на цягнік. За гэтыя 15 хвілін мы й набылі квіткі да Прагі (358 км) за 192 кроны (5,82 дал.). У Чэхіі няма ільготы студэнтам на праезд па чыгунцы, але звычайныя квіткі адносна танныя. Прычым па адным і тым жа квітку можна ехаць зь перасядкамі ў накірунку месца прызначэньня, чым мы й скарысталіся, даехаўшы спачатку да Пшэрава, а там пераселі на мясцовы фірмовы цягнік, якім апякуецца пшэраўскі бровар "Зубар". А сёмай раніцы мы былі ўжо ў Празе чэскай.

Цяпер можна падвесьці пэўныя вынікі. Увесь шлях ад Менску да Прагі заняў 36 гадзін (калі вярталіся, то, ужо маючы пэўны досьвед, уклаліся ў 24). Агульны кошт квіткоў ды прэзэнтаў спажывецкімі таварамі на аднаго чалавека-студэнта склаў 19,26 дал. без уліку кошту ваўчара ды ISIC-а.

І яшчэ адна парада. На вакзалах ды іншых шматлюдных мясцох у Чэхіі й асабліва Польшчы лепей не карыстацца расейскай мовай, бо, пачуўшы яе, можа прычапіцца нейкае бадзяжніцтва ды "братва" з абсягаў былога эсэсэра, якая ў пэўнай колькасьці блукае па Эўропе. Канспіравацца дастаткова па-беларуску, тым болей, што і палякі, і чэхі з пэўным нацягам вас зразумеюць. А калі нейкі "братан" захоча паразмаўляць, то дастаткова на роднай мове адказаць, што мы ня ёсьць рускія, што так і ёсьць, і зусім кепска ці амаль нічога не разумеем з таго, што вы кажаце! Гэтага зазвычай дастаткова.

Ну, вось пакуль і ўсё. Пакуль – таму што ў наступных нумарох распавяду пра саму Прагу, яе ваколіцы, Прагу – беларускую (!!!) ды шлях дадому.





# Разлучаныя ўдзяцінстве?

Я вялікі аматар гісторыі. Пару тыдняў таму мне пашчасьціла натрапіць на "перажыткі" савецкай эпохі – набор картак пад загалоўкам "Піянэры-героі Вялікай Айчыннай вайны". Для тых, хто ня ў курсе, тлумачу: піянэры былі савецкім эквівалентам Гітлерюгенда – штосьці накшталт аддзелаў скаўтаў-ваўчанят Оруэла. Карацей, на кожнай з картак была выява аднаго зь піянэраў-герояў, якія змагаліся супраць фашысцкіх акупантаў падчас другой сусьветнай вайны. Пад здымкам зьмяшчаліся мэдалі, а на адваротным баку – расповед, за што гэтыя мэдалі былі атрыманыя. Твар аднаго зь піянэраў па імі Саша Барадулін вельмі моцна нагадаў мне супэрзорку Галівуда Мэта Дэймана. Уявеце сабе мой стан, калі я прачытаў Сашаву гісторыю і зразумеў, што гэта ня проста зьнешняе падабенства, а непарыўная сувязь двух чалавечых жыцьцяў, адасобленых прастораў і часам. Чым больш я знаходзіў наводзячых жуду супадзеньняў, тым лепей я разумеў, што гэта выпадак, варты гісторыі Лінкальна і Кенэдзі, жыцьцё і сьмерць якіх былі жахліва падобнымі. Такое падабенства проста немагчымае статыстычна, больш неверагоднай можа быць толькі прайгранка *Chicago Cubs* год празь дзевяноста. Карацей, вось што я выявіў:

| Мэт Дэйман | Саша Барадулін |
| --- | --- |
| Нарадзіўся ў паўднёвым прыгарадзе Бостана. | Нарадзіўся ў маленькай вёсцы на поўдні Расеі. |
| Нястомны фанат Рэд Соксаў, Мэт часта носіць майку з выявай свайго куміра Карлтана Фікса. | Нястомны фанат Чырвонай Арміі, Саша насіў гузікі з выявамі сваіх куміраў, Леніна і Сталіна. |
| Сусвет пахіснуўся, калі Біл Бакнэр прапусьціў гол, і Рэд Сокс прайграў першынства. | Сусьвет пахіснуўся, калі ўварваліся немцы, несучы сьмерць мільёнам людзей. |
| Як сапраўдны амерыканец з добрым разуменьнем, што такое кепска, Мэт зьвярнуўся да бацькоў, каб тыя накіроўвалі яго да правільных рашэньняў. | Як сапраўдны савецкі піянэр з добрым разуменьнем савецкага рэалізму, Саша даказаў на сваіх бацькоў у КДБ, адкуль тыя былі накіраваныя ў Сібір. |
| Мэт згубіў 40 фунтаў, каб сыграць сваю ролю ў баевіку "Мужнасьць пад агнём". Кожны дзень ён прабягаў 12 міляў ў ня еў нічога, апроч варанай курыцы з бульбай. | Саша згубіў 40 фунтаў, пастаянна ўцякаючы ад фашыстаў. Кожны дзень ён прабягаў 12 міляў, і ня еў нічога, апроч карэнчыкаў ды вусякоў. |
| У 24 гады, яшчэ зусім малады, Мэт атрымаў Оскара за лепшы сцэнар фільму "Good Will Hunting". | У 18 год, яшчэ зусім малады, Саша атрымаў ордэн Чырвонай Зоркі за сьмеласьць, мужнасьць і пэўную колькасьць забітых немцаў. |
| Мэт быў лепшым пітчарам Малой Лігі, пасьлядоўна наносячы ашаламляльныя ўдары з адлегласьці 90 футаў. | Саша быў лепшым стралком партызанскага атраду, пасьлядоўна робячы дзіркі ў нямецкіх ілбах з адлегласьці 90 фт. |
| У "Мужнасьці пад агнём" Мэт здабывае свой першы трафэй - матацыкль, які ён адымае ў мёртвага іракскага кулямётчыка. | Узімку 41-га году Саша здабыў свой першы трафэй - кулямёт, які ён сьцягнуў у мёртвага нямецкага матацыкліста. |
| Мэт ніколі ня будзе забыты за сваю геройчную працу па раскрыцьці характару галоўнага героя. | Саша ніколе ня будзе забыты за сваё геройчнае пакутніцтва. |

Я ўпэўнены, што прыведзеныя факты шакуючых супадзеньняў мусяць быць навукова дасьледаваныя, прааналізаваныя і належным чынам зафіксаваныя ў аналах гісторыі. Але мушу таксама адзначыць, што Саша Барадулін яшчэ больш нагадвае мне Кэвіна МакКоркі, майго сябру дзяцінства. Аднак значэньне і наступствы могуць быць ашаламляльнымі, простыя сьмертныя нават уявіць сабе ня могуць, чым гэта можа скончыцца. Але ніколі не забывайцеся, што страшная праўда існуе і цярпліва чакае свайго часу.

«Замежны аглядальнік». Штомесячная газэта ўнівэрсытэту Джона Хопкінса. ? 6. Травень 1998. Травень 1998. Дэрэк Вэстфал // Derek Westfall.

*ESIB (The National Unions of Students in Europe)—Нацыянальныя Студэнцкія Саюзы ў Эўропе—арганізацыя, якая пачала сваю дзейнасьць у 1982 годзе і ўжо шаснаццаць год прадстаўляе адукацыйныя, сацыяльныя, эканамічныя і культурныя інтарэсы студэнтаў Эўропы ў эўрапейскіх установах, а таксама, ува ўрадах розных краінаў, ці ўрадавых інстытутах. Зараз арганізацыя налічвае 35 прадстаўнікоў больш як з 30 краінаў. Праз арганізацыі-сябры ESIB прэзэнтуе болей за 5 мільёнаў студэнтаў, а гэта — большасьць студэнтаў Эўропы.*

*ESIB зьяўляецца сябрам Эўрапейскага Моладзевага Форуму. У якасьці самастойнай арганізацыі працуе з Аддзелам па вышэйшай адукацыі і дасьледаваньнях Рады Эўропы, Эўрапейскім Камітэтам і Эўрапейскім парляментам, а таксама з Асацыяцыяй Эўрапейскіх Унівэрсытэтаў, Эўрапейская Асацыяцыяй за Вышэйшую Адукацыю і шматлікімі іншымі.*

*Сярод новых сябраў, прынятых у ESIB падчас апошняй сустрэчы, было і Задзіночаньне беларускіх студэнтаў. Прадстаўляе арганізацыю ў ESIB старшыня камісіі ЗБС па міжнародным супрацоўніцтве Сяргей Мядзьвецкі.*

# ESIB
## The National Unions of Students In Europe

ТЭМА ...............

**Эх, Ваня! Мы з табой у Парыжы...**

**Студэнцкая Думка:** Сяргей, чаму менавіта ЗБС зараз прадстаўляе студэнцкую моладзь у ESIB?

**Сяргей Мядзьвецкі:** Сябрам ESIB можа стаць студэнцкая арганізацыя, якая, па-першае, незалежная ад дзяржавы і дэмакратычная па сваёй структуры, па-другое, зьяўляецца рэпрэзэнтатыўнай і адкрытай для ўсіх студэнтаў краіны незалежна ад полу, колеру скуры, рэлігіі, мовы, палітычных поглядаў, сэксуальнай арыентацыі і г.д. ЗБС жа зьяўляецца самай прадстаўнічай студэнцкай арганізацыяй на Беларусі і адпавядае па сваёй структуры і прынцыпах усім патрабаваньням ESIB.

**С.Д:** Ці былі заявы на сяброўства ў ESIB ад іншых беларускіх моладзевых арганізацыяў?

**С.М.:** Так, заяву падаваў Беларускі патрыятычны саюз моладзі, але яна была адхілена. Па-першае, арганізацыя мае прамое дзяржаўнае фінансаваньне, а па-другое, складаецца ня толькі з студэнцкай моладзі.

**С.Д:** Якім чынам адбылося знаёмства ЗБС з ESIB?

**С.М.:** Як заўсёды, праз асабістыя кантакты. У жніўні 1997 году ў Даніі ладзіўся "Усходне-Эўрапейскі сэмінар". Ад ЗБС там прысутнічалі Алесь Міхалевіч і Валеры Юрэвіч, дзе яны і пазнаёміліся з прадстаўнікамі ад ESIB. Другая сустрэча адбылася ў Брацiславе /Славаччына/, дзе праходзіў сэмінар "Па пытаньнях беспрацоўя сярод маладых спэцыялістаў". Там жа праходзіла й 33 сустрэча сябраў-арганізацыяў ESIB. На той сустрэчы 9 новых арганізацыяў падалі заяву на сяброўства ў ESIB. Восем зь іх /акрамя БПСМ/ былі прыняты да разгляду. Потым мы атрымалі анкету зь вялізнай колькасьцю пытаньняў, на якія мусілі даць дакладныя, праўдзівыя /больш-менш/ адказы. І толькі затым атрымалі запрашэньне на 34 сустрэчу сябраў ESIB, дзе кожны прэтэндэнт распавядаў пра сваю арганізацыю і адказваў на ўсе магчымыя пытаньні.

**С.Д:** Наколькі сур'ёзнай зьяўляецца працэдура прыняцьця ў ESIB новай арганізацыі? Ці гэта простая фармальнасьць?

**С.М.:** Я б не сказаў, што гэта фармальнасьць. З прыняцьцем ЗБС таксама ня ўсё прайшло гладка. Было дзьве праблемы: нацыяналістычная дзейнасьць Задзіночаньня і пытаньне аб яго рэпрэзэнтатыўнасьці. Па-за гэтым, з улікам усёй папярэдняй дзейнасьці нашай арганізацыі і палітычнага становішча ў краіне, усе сябры ESIB ставіліся да прыняцця ЗБС пазытыўна. ЗБС быў прыняты большасьцю ў 40 галасоў /супраць ніводнага, 4 устрымаліся/.

**С.Д:** Якія абавязкі ўзяў на сябе ЗБС гэтым сяброўствам у ESIB?

**С.М.:** Мы мусім плаціць узносы кожныя паўгоду, але для краінаў Усходняй Эўропы яны ня вельмі вялікія, а таксама прысутнічаць на паседжаньнях Рады.

**С.Д.:** Якія далягляды адчыняюцца перад ЗБС у сувязі з уступленьнем у такую аўтарытэтную эўрапейскую арганізацыю як ESIB?

**С.М.:** Для нас гэта, перш за ўсё, новыя кантакты і новыя сумесныя праекты. Гэта магчымасьць распаўсюджваць інфармацыю пра Беларусь і атрымоўваць весткі з Эўропы. Зараз мы можам ад імя нашай арганізацыі праз ESIB зьвяртацца ў Эўрапарлямант і іншыя эўрапейскія інстытуты.

**С.Д.:** Ці не атрымліваецца, што ЗБС будзе манапольна прадстаўляць беларускі моладзевы рух?

**С.М.:** Пакуль гэта так, але па статуце ESIB у ёй могуць быць прадстаўлены дзьве арганізацыі ад адной краіны. Так што, шанец яшчэ ёсьць. А мне асабіста будзе прыемна, калі зьявіцца яшчэ адзін беларус – будзе весялей езьдзіць.

ТЭМА

## Ралі «Гомля-Магілёў-Ратамка»

ЗБС на маршы

# ЗБС-чэмпіён!

І што ж гэта робіцца, браце!? Ці з глузду ўсе пазьяжджалі? Сэмінарацца ўсё, канфэрэнцяцца, зьезьдзяцца... Ролю незалежных студэнцкіх арганізацыяў у пабудове грамадзянскай супольнасьці абмяркоўваюць. Ды й добра, калі б толькі нашы, а то глядзі ты—на міжнародны ўзровень выйшлі, ды па рэспубліцы паехалі!

Вось тэ крыж, сама бачыла: 2-3 траўня ў Гомлю завалілі. Піва прывезьлі, "партызанскую" гарланілі на вакзале, сасіскі лыжкамі ды нажамі пластмасавымі елі, а пасьля з украінцамі як пачалі пра грамадзтва ды пра яго пабудову разважаць... Алэксій Пій выступаў, пра ўдзел свой у выбарах распавёў, пра жыцьцё іхнае вольнае, пра тое, як мову ўкраінскую любяць і шануюць, пра мітынгі іх—дазволеныя ўсе. Ну й наскія тварам па бруду ня совaліся. Алесь Міхалевіч пра гісторыю моладзевага руху на Беларусі паведаў, пра ЗБС гаворка ішла, Андрэй Трыбуналаў будаваць арганізацыі вучыў, сваю рэклямаваў, бо працуюць, маўляў, па навуцы. Гомельскіята наслухаліся, вочкі заблішчэлі, і ну свой ЗБС ствараць. Стварылі хуценька, а пасьля культурна адпачываць сталі. Зьміцер Бартосік пра адраджэньне нацыі сьпяваў, Андрусь Мельнікаў патрыятычны дух узьняў, і так спадабалася гэта зямлі гомельскай, што не адпускала яна гасьцей сваіх—у ліфце захрасьлі яны з гітарай і сьпевамі ўзьнёслымі. А на той час у гатэлі яшчэ й



Крысьціна Сідун

дэлегаты-інтэгранты беларускарасейскія пражывалі. Так што выйшлі нашыя нацыяналюбы на парляманцкі ўзровень.

8-9 у Магілёве былі. Зноўку вучылі працаваць на незалежніцкай ніве андэграўнд мясцовы, Андруся Мельнікава слухалі, ды яшчэ Ігар Мухін-Рабінок лірызму дадаў—нядрэнна патусаваліся. Па горадзе чырвонасьцяжна-пераможным пабадзяліся, зьлёгку папалохалі вэтэранаў мовай невядомай—беларускай, дзяцінства дзядоў сваіх узгадалі пад сьпевы аб валёнках, што па ўсім горадзе разносіліся.

Дык, думаеце, скончылася гэтым усё? Не, панесла нашых герояў зусім высока. З 15 да 17 траўня гурталіся яны ў Ратамцы, што пад Менскам. Замежнікаў панаехала!.. З Украіны дык ужо й свае людзі, здаецца, а то яшчэ латышы, летувісы ды палякі завіталі. І ўсе распавядаюць пра жыцьцё сваё маладое, пра праблемы яго ды сьветлыя імгненьні. А нашыя ўсьміхаюцца так загадкава, бо зьезд толькі што адбыўся ЗБС-аўскі. Канфэрэнцыя гэтая цікавая для іх, безумоўна, але ж пасады ўжо падзеленыя, і Вінцука Вячорку слухаць можна спакойна, і расповеды Зьмітра Салошкіна пра мінуўшчыну ЗБС-аўскаю прыемна пачуць, а Янка Хлябовіч як красамоўна пра стасункі міжнародныя распавёў... Культурная частка нішто так была. "Камэлёты" пасьпявалі, патанчылі пад іх добра. Вядома ж, зноўку Андрусь быў Мельнікаў, Зьміцер Бартосік ды Ігар Мухін-Рабінок для душы сьвята ладзілі. А ўначы некаторым пашэнціла подзьвіг Сусаніна зразумець ва ўсёй прыгажосьці, бо павёў Ільля-Будзінавец гаротных украінцаў на гару Лысую, да памыліўся трошкі з геамэтрыяй — у бок адваротны павёў. Натхніла гэта хлопцаў — зараз усіх у Кіеў запрашаюць ды экскурсію па горадзе наладзіць абяцаюцца. Урэшце ўсе засталіся разнабакова ўражаныя, кантактаўназьбіралі, плянаў набудавалі, а ў выніку рэзалюцыю зацьвердзілі. Так што калі вы там былі ды піва пілі—вы мяне зразумееце, а калі не—усё ў вас наперадзе.

**Жыве Беларусь! Жыве ЗБС!**

# На заўсёды маладыя

Сьведчаньні відавочца -
Зьміцера В.

Напярэдадні мне патэлефанавалі і прыемны дзявочы голас паведаміў, што маючае адбыцца *Мерапрыемства*, як і мае быць - адбудзецца. Падзеі разьвіваліся вокамгненна. Назаўтра належала электрычкай дабрацца да станцыі Ратамка і адтуль ужо пешшу да гатэлю конна-спартовага комплексу. У назначанае месца трэба было прыбыць у $13^{00}$. У гэты час меладся пачацца рэгістрацыя *Ўдзельнікаў*, якая, як плянавалі *Арганізатары*, паволі перабяжыць у абед.

Да майго сораму я спазьніўся і толькі ў палову на трэцюю адчыніў дзьверы гатэлю. Мяне ўразіла цішыня, якая панавала ў будынку і я зразумеў - *Удзельнікі* адпачываюць у сваіх нумарох па добрым абедзе! Толькі у холе адзінока і непрытулена таўкліся чатыры чалавекі, сярод якіх я пазнаў знаёмыя аршанскія твары. «Таксама спазьніліся... на абед!»,- мільганула думка ў маёй галаве, і я падыйшоў да століка, ля якога стаялі хлопцы. «Таксама спазьніліся?», - спачувальна запытаўся я ўжо ўслых. Наступныя за адказам некалькі хвілінаў прыгадаць зараз цяжка. Каб лепей усьвядоміць сытуацыю, я прысеў на адну з шматлікіх скрыняў зь півам, што загрувашчвалі добрую палову вэстыбюлю. Выходзіла, што можа першы раз я НЕ СПАЗЬНІЎСЯ НА ГЭТАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА! Але наадварот, яно так спазьнілася, што нават перапазьніла мяне. У хуткім часе я пабачыў самага самага доўгага *Арганізатара* (увогуле, на той момант, *Арганізатараў* было болей за ўдзельнікаў), які упарта замаўляў па тэлефоне піва, яшчэ піва, усё болей і болей піва!

На абедзе прысутнічала чалавек шэсьць, ня болей. Каля чатырох прыбылі яшчэ *Удзельнікі*, а потым яшчэ, і апошнім, сярод якіх былі запрошаныя ўкраінцы і нехта з прыбалтаў, абедаў ужо не хапіла. Мерапрыемства пачалося а шостай гадзіне, як раз тады, калі, паводле адзінае існае *Праграмкі Мерапрыемства*, яно павінна было ўжо сканчацца. Само *Мерапрыемства* было прысьвечана шчасьліваму *бёздэю* галоўнага *Арганізатара*, з чым яго і павіншавалі пасьпеўшыя пад'есьці *Удзельнікі*.



А потым выступіў і Сам галоўны *Арганізатар* з прамовай удзячнасьці, у якой, пасярод іншага, ён сьціпла адзначыў тыя перамогі і дасягненьні, якія зьведала кіраваная ім арганізацыя, і паабяцаў, што будзе яшчэ лепш.

Пад канец былі закранутыя і некаторыя арганізацыйныя пытаньні. Нягледзячы на тое, што па самых сьціплых ацэнках кіраўніцтва шчыльныя шэрагі сяброў арганізацыі вагаюцца ў межах дзьвюх тысячаў (а будзе, як памятаем, яшчэ больш!), шэрагі нашыя такія шчыльныя, а сяброўства такое шчырае, што ўсе прысутныя ведалі адзін аднаго ў твар, а таму пытаньні вырашаліся хутка і без празьмерных фармальнасьцяў. Найперш раздалі карткі для галасаваньня. Раздавалі па прынцыпе: на першы-другі разьлічыся!.. Далей па-сяброўску вырашылі, што кіраваць арганізацыяй могуць толькі менчукі. Чаму? А таму што! Таксама знайшлі цікавую падставу, па якой не былі ўнесены зьмены ў Статут. Пытаньне вырашалася не па прынцыпе патрэбнасьці-непатрэбнасьці гэтых зьменаў, але зыходзячы з магчымай патрэбай у перарэгістрацыі Статуту. Я сядзеў вельмі ўсьцешаны. Арганізацыя, якая імкліва набліжаецца да свайго дзесяцігодзьдзя, ня мае ніякіх прыкметаў заняпаду й выраджэньня. Гэта ўсё той жа малады й здаровы арганізм, які яшчэ здольны разьвівацца (бо рэгрэсаваць проста ж няма куды).

Мяне, як самага старога й барадатага (а ў мяне ніжняя палова твару цалкам аброслая), абралі старшынём падліковай камісіі, нягледзячы на тое, што я ня ведаю лічбаў і ня ўмею лічыць. Таму я, адчуўшы на *Мерапрыемстве* подых атмасфэры *Першых гадоў* існаваньня арганізацыі, спакойна дачакаўся перапынка, нетаропка падыйшоў да *Старшыні Мерапрыемства* (ня блытаць з галоўным *Арганізатарам*) і сказаў яму, не такому спакойнаму, як я, што выконваць абавязкі старшыні азначанай камісіі ня буду, бо:

- інакш я бы ня быў сапраўдным вэтэранам арганізацыі;
- тады я парушу спакойную хаду Мерапрыемства;
- я ўжо ад'яжджаю да Менску.

Паколькі посьпехі ў жыцьці арганізацыі, так бы мовіць, навідавоку, нешта мяняць ня мае сэнсу. Я так думаю, болей нічога асаблівага й не



адбылося (маецца на ўвазе час па маім ад'езьдзе). Дадому я ехаў ускрылены апошнімі навінамі, што арганізацыя ўжо мае свае філіялы амаль ува ўсіх (з шасьцёх) абласных цэнтраў!

Але калі казаць зусім без сарказму, арганізацыя, [illegible] ой у агульных рысах я апіс[illegible], з'яўляецца (разам з б[illegible] ей су полкамі і маладзёвымі арганізацыямі) адной з найбольш працаздольных у беларускай апазыцыі. І таму я іранізую «любасна» і проста прыходжу ў адчай ад таго балота, якім мне бачацца [illegible], што «супрацьстаіць» [illegible] краі.



# Уваходзіны альбо новы ОФІС

**Новая сядзіба ЗБС зараз аздоблена велізарным віншаваньнем з адраджэньнем – чырвонымі літарамі на ўвесь мур. 18 чэрвеня там сьвяткаваліся Ўваходзіны або Ўлазіны. Аб аўтэнтычнай назьве прамінулае ўрачыстасьці й дагэтуль ідуць размовы, але для ўсіх бясспрэчна, што ў памяшканьні на Дарашэвіча 4-2 нарэшце пасяліўся дух ЗБСу.**

Як належыць, на пачатак дзеі першым закінулі ката. Пасьля дазволілі зайсьці гасьцём, якіх сустракала гаспадыня – Алена.

Пад гімн "Дробна-драбніца" ў выкананьні імправізаванага старажытнагрэцкага хору, угорнутага ў дэдэроны, быў унесены і ўрачыста замацаваны сьцяг ЗБС. Па коле пайшоў куфаль, і кожны, перш чым сербануць, выказаў тост-пажаданьне ЗБСу і ўсім прысутным. Старшыня прынёс прысягу на вернасьць сваёй арганізацыі, паклаўшы руку на Статут ЗБСу, раздрукаваны на ўрачыста жоўтай паперы. Пасьля яму была ўручана птушка: ці то сакратар, ці то намесьнік, – ці то папугай, ці то певень.

Падчас урачыстасьці прысутнічала каля 30 чалавек – ранейшыя й сапраўдныя зэбээсаўцы ды іхныя сябры. Дарэчы, падыйшлі й навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэю ды сабралі подпісы ў абарону сваёй установы: на ўваходзінах гэта было хвілінай справай. Вэтэраны ЗБСу з зайздрасьцю адзначылі ўзрослую колькасьць дзяўчат. Больш за тое: пачаліся розныя фэміністычныя штучкі. Пад уплывам Стусаваньня свабодных студэнтак у склад праграмы быў уключаны конкурс мужчынскай прыгажосьці.

Пад заклік Крысьціны "Хлопцы! Мужыкі сярод вас ёсьць? Калі хто не мужык – дык сядзі, астатнія – падыходзьце за нумарамі!" чатыр-



старшыня адмаўляецца пакідаць стары офіс

наццаць гледачоў зрабіліся акторамі. У журы зьмясьціліся Вольга Харламава, Маша Вайцэховіч і Мар`яна Карнейчык, да якіх далучыліся Вольга Цяцёркіна ў якасьці наглядальніка ад грамадзкасьці й "незалежны абсэрвэр" Ян Хлябовіч. Конкурс пачаўся з самапрэзэнтацыі ўдзельнікаў, якая нагадвала перадвыбарчую кампанію: хто прылюдна падкупаў журы камплімэнтамі, хто абяцанкамі, а хто – грашыма. Збольшага ўсе гэта нагадвала КВЗ: канкурсанты бралі гумарам і знаходлівасьцю, а сама праграма ўсё больш да гэтага схіляла. Сярод выканаўцаў роляў знакамітых дзеячаў асабліва вызначыліся Чыпаліна, Самурай, Тэрмінатар і Робін Гуд. Але найбольш уразіла публіку дэманстрацыя "ножак Буша".

Шоў захапіла прысутных, і конкурс працягнуўся больш за гадзіну. У фінал выйшлі Аляксандар Шалайка, Юрась Лук'янаў і Ільля Глыбоўскі. Пераможцаў адразу ж прадалі з аўкцыёну. Аб кожным зь іх па коле выказваліся ласкавыя словы. Тавар сам вырашаў, што ён прымае як камплімэнт, а што не. У рэшце рэшт, яго ўручалі той глядачцы, якая апошняя знаходзіла, што прыемнага сказаць свайму абранаму або ўражвала публіку яркім эпітэтам.

Пасьля конкурсу гаспадыня запрасіла гасьцёў частавацца канапкамі, тым больш, што частка прысутных ужо й так спаталяла голад на кухні. На сыты страўнік спадарства згадала аб грахох і знайшло ў сваіх шэрагах сьвятароў некаторых канфэсій, якія хуценька іх адпусьцілі, а заадно й асьвяцілі новае памяшканьне.

А ўначы быў сэанс сьпірытызму. Пры запаленых сьвечках паклікалі бацькузаснавальніка ЗБС — Ігара Міхно, які зьявіўся ў абліччы прывіду. Пыталіся ў яго аб усім: і аб мінуўшчыне й аб будучыні. Ня ўсё казаў бацька Міхно: што называў эротыкай, а дзе жудасна або загадкава сьмяяўся. Будучыню маляваў сьветлай. Што ж да мінулых падзеяў, то дакладная дата нараджэньня Задзіночаньня згубілася ў гадох — доўга яно выношвалася. Можа, падчас вайсковай службы на пачатку перабудовы, калі ён падбухторыў цэлую роту размаўляць пабеларуску, а можа, калі разгарнуўся рух за адраджэньне, а можа, калі бачна стала, што сабраліся вакол адны студэнты... Іншыя тады былі часы. Але Міхно сказаў, што ЗБС будзе жыць вечна. І гэтага было дастаткова. Размаўлялі шмат, але больш сьпявалі. А потым прыйшоў Бартосік з гітарай і слухалі ўжо яго – да самай глыбокай ночы.




да чаго добра на ЗБСе